ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 1 (2299)

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

7 студзеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАНСТАНЦЫІ БУЙЛО

# ПРАЗ ПАКУТЫ, ЦЯРПЕННЕ І НЯЗГАСНУЮ НАДЗЕЮ







**КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛО была сучасніцай Цёткі, Максіма Багдановіча, Ядвігіна Ш., Алеся Гаруна, Янкі Купалы і Якуба Коласа... Была яна і нашай сучасніцай, але мы не цанілі гэтага шчасця, пакуль яна жыла, не да канца ўсвядомілі месца паэтэсы ў беларускай літаратуры і пасля яе смерці. Мы не паспяваем або яшчэ не адчулі неабходнасці аддаць належнае кожнай асобе, якая прычынілася да стварэння айчыннай літаратуры, працавала на ніве роднай культуры дзеля адраджэння нацыянальнай самасвядомасці баларусаў, развіцця іх роднай мовы. Канстанцыя Буйло, рана ўсвядоміўшы сябе асобай і вызначыўшы сваё месца ў грамадстве, стала ў шэрагі паэтаў, пра якіх Янка Купала ў артыкуле "Чаму плача наша песня" пісаў, што яны з малаком абняволеных і абнядоленых матак увабралі ўсё гора свайго народа. І калі ўжо з'явіўся паэт у такога народа, ён гаворыць пра тое, што накіпела ў яго душы "праз доўгія гады цярпення і акружаючай беспрасветнай нядолі".**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## НА ШЛЯХУ ДА ЯДНАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

# МЫ НЕ ПАСЫНКІ ТВАЕ, БЕЛАРУСЬ!

### ПАД ТАКІМ ДЭВІЗАМ ПРАЙШОЎ У МІНСКУ ПЕРШЫ СХОД БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

**С. ШУШКЕВІЧ: "МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ВАШ СХОД — ГЭТА ПАЦВЕРДЖАННЕ ТАГО, ШТО БЕЛАРУСКАСЦЬ ЖЫВЕ І БУДЗЕ ЖЫЦЬ".**

З абсягаў СНД, Балтыі і Польшчы з'ехаліся ў Дом літаратара, што ў Мінску, і працавалі на сваім першым форуме цягам 19 і 20 снежня 250 дэлегатаў ад 63 беларускіх суполак і аб'яднанняў.

Ідэя зладзіць такую акцыю нарадзілася на сустрэчы Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" з групай землякоў са Злучаных Штатаў і Канады. І вынікала з папярдняй задумы паклікаць Кангрэс беларусаў свету, а перад ім правесці нараду кіраўнікоў суполак з краін СНД.

— Але калі ідэя дайшла ў замежжа, людзі пачалі пісаць і званіць. Высветлілася, што недастаткова правесці такую нараду адно на ўзроўні той грамадскай арганізацыі, якую я прадстаўляю, і суполак. Гэтыя праблемы на развалах СССР могуць быць вырашаны толькі з дапамогай дзяржавы. Адсюль узнікла думка надаць нарадзе статус Першага Сходу беларусаў блізкага замежжа, — сказаў на брыфінгу напярэдадні гэтага вялікага збору старшыня Рады Згуртавання Яўген Лецка.

І ў тым ёсць пэўная адметнасць: да падрыхтоўкі, наладжвання і правядзення сходу прычыніліся таксама разам з іншымі чатыры Міністэрствы Беларусі: культуры, адукацыі, абароны і замежных спраў. На яго патрэбы былі выдаткаваны 3 мільёны рублёў.

Распачаўся сход прывітальнымі словамі, з якімі звярнуліся да яго Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч, прэзідэнт згуртавання "Бацькаўшчына" пісьменнік В. Быкаў, намеснік старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дзямчук, які зачытаў заяву Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіча, лідэр БНФ З. Пазьняк, старшыня Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны А. Мальдзіс. Былі заслуханы таксама прывітанні са Злучаных Штатаў ад Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Амерыкі, газеты "Беларус", часопіса "Полацак" і Рады БНР.

Асноўны даклад "Беларускае замежжа: гісторыя, сучаснасць, перспектывы" зрабіў доктар гістарычных навук Леанід Лыч, які паказаў шлях і прычыны фарміравання блізкага замежжа.

Пасля даклада трыбуна сходу цалкам была аддадзена дэлегатам. Шмат пытанняў узнімалася прамоўцамі. Шкада, што магчымасці газетнай справаздачы абмежаваныя і не дазваляюць данесці да чытача ўсю разнастайнасць тых пунктаў гледжання, а з імі і слёзы, і горыч, і разгубленасць. Раскол зусім нядаўна "адзінага і магутнага" вакханаліяй заняпаду, залпамі гармат і парканам межаў парушыў жыццяродную повязь паміж замежнымі суайчыннікамі і Бацькаўшчынай.

Аднак варта, думаю, абагуліць гэту разнастайнасць па тэматычных накірунках дыскусій: хада нацыянальнага адраджэння на Баць-

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

# ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ, ФАКТЫ

*ВІНШУЕМ ЛАЎРЭАТАЎ*

## ПРЫСУДЖЭННЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ

Напрыканцы 1992 года былі агалошаны імёны новых лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

У галіне літаратуры прэмія імя Янкі Купалы прысуджана Сяргею ЗАКОННІКАВУ за кнігу паэзіі "Заклінанне" і Алесю ЗВОНАКУ (Звонаку Пятру Васільевічу) за кнігу паэзіі "Святлацені".

Прэміяй імя Якуба Коласа адзначаны Сяргей ГРАХОЎСКІ за кнігу "Споведзь", Аляксандр ЖУК — за кнігу "Праклятая любоў", Васіль СЁМУХА — за пераклад з нямецкай мовы на беларускую рамана Томаса Мана "Доктар Фаустус".

Прэмія імя Кастуся Каліноўскага прысуджана Мікалаю ЕРМАЛОВІЧУ за гістарычна-публіцыстычную кнігу "Старажытная Беларусь, Полацкі і навагародскі перыяды".

Яраслаў ПАРХУТА ўдастоены прэміі за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва.

У галіне музыкі і канцэртна-выканальніцкай дзейнасці прысуджана прэмія ГАРЭЛАВАЙ Галіне, кампазітару, за кантату "У год сусветнага пажару".

У галіне тэатральнага мастацтва — Уладзіміру КІН-КАМІНСКАМУ, Уладзіміру КУР'ЯНУ, Віктару МАНАЕВУ, Мікалаю ПІНІГІНУ за пастаноўку ў беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы спектакля "Тутэйшыя" па п'есе Янкі Купалы.

У галіне архітэктуры і выяўленчага мастацтва прэміі атрымалі мастакі Эдуард АГУНОВІЧ за архітэктурна-мастацкае вырашэнне экспазіцый Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску і Музея партызанскай славы ў г.п. Ушачы Віцебскай вобласці і Мікалай СЕЛЯШЧУК за серыю графічных аркушаў "Святы" ("Каляды", "Гуканне вясны", "Вербніца"), за цыкл карцін "Мая Беларусь", за ілюстрацыі да кніг "Сымон-музыка" Якуба Коласа і "Сказки белорусских писателей".

Адметная акалічнасць: прэміі 1992 года — гэта першыя Дзяржаўныя прэміі суверэннай Рэспублікі Беларусь.

*"Нацыянальны характар беларусаў, узважанасць палітыкі Вярхоўнага Савета і ўрада дазволілі захаваць цэласнасць рэспублікі, непахіснасць яе межаў, грамадзянскі мір. Ганаруся тым, што Беларусь не дазволіла ўцягнуць сябе ў этнічныя і сацыяльныя сваркі. Ні адна кропля крыві не пралілася на нашай зямлі ў рэлігійных альбо міжнацыянальных канфліктах.*

*Мы не павінны забываць, што Беларусь была і застаецца еўрапейскай краінай. Нашы намаганні ў адыходзячым годзе накіроўваліся на тое, каб ператварыць Рэспубліку Беларусь у раўнапраўнага партнёра ў сусветнай супольнасці. 108 дзяржаў прызналі Беларусь, з 68 з іх мы ўстанавілі дыпламатычныя адносіны. Але сапраўднае раўнапраўе на сусветнай арэне дасягаецца не толькі праз юрыдычнае прызнанне. Яно будзе рэальным, калі Беларусь забяспечыць устойлівае развіццё сваёй эканомікі, уздыме ўзровень абароны правоў і свабод чалавека. Дасягненне такога раўнапраўя — галоўная мэта дзяржавы, усіх структур яе ўлады.*

*Як ніколі раней самай важнай справай з'яўляецца аб'яднанне нашага народа, каб яго своеасаблівасць стала крыніцай сілы ў свеце. У тым свеце, дзе кожная краіна адыгрывае сваю ролю. Наш абавязак — не толькі клапаціцца аб блізкім і далёкім беларускім замежжы, але адшукаць падыходы для ўключэння беларускай эміграцыі ў стваральную працу на карысць Бацькаўшчыне".*

**(З навагодняга віншавання Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча беларускаму народу).**

*ПРЫЗНАЧЭННІ*

## ГЕНЕРАЛЬНЫ ПРАКУРОР БЕЛАРУСІ

Васіль Шаладонаў, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, абраны Генеральным пракурорам нашай дзяржавы. На сесіі Вярхоўнага Савета пры тайным галасаванні за яго было пададзена 229 галасоў дэпутатаў.

Васілю Шаладонаву 44 гады, ён мае юрыдычную адукацыю, за плячыма — многія гады работы на раённым узроўні, мае рэпутацыю добрага спецыяліста і прынцыповага чалавека.

*"ЧОРНАЕ ЗОЛАТА"*

**Нерытмічныя пастаўкі ў Беларусь "чорнага золата" з Расіі прывялі да сур'ёзных перабояў з бензінам, дызельным палівам і іншымі энерганосьбітамі. Расшырэнне здабычы на існуючых радовішчах на тэрыторыі рэспублікі дазволіла б у нейкай меры вырашыць многія вострыя праблемы.**

**Адно з апошніх разведаных месцараджэнняў — 1-я Отрубаўская плошча на Гомельшчыне. Цяпер тут адказны момант: заліваецца цэментам першая эксперыментальная калона. Пасля выхаду нафты будуць прабураны яшчэ некалькі свідравін, што дазволіць вызначыць аб'ёмы існуючых пластоў.**

**НА ЗДЫМКУ: на Отрубаўскім радовішчы.**



*ЛІКВІДАЦЫЯ ЎЗБРАЕННЯЎ*



**Ліквідацыя звычайных узбраенняў пачалася на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Першыя баявыя машыны пяхоты разабраны на Барысаўскім цэнтры ліквідацыі. Усяго арсенал воінскіх часцей зменшыцца больш чым на 1 000 баявых машын пяхоты. З іх 627 пойдуць на металалом, 390 будуць выкарыстаны для народнагаспадарчых патрэб, 5 стануць экспанатамі музея і 65 — наземнымі цэлямі для авіяцыі.**

**За ходам ліквідацыі назірае замежная інспекцыя.**

**НА ЗДЫМКУ: працуе замежная інспекцыя.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

· Выдаткі толькі на харчаванне працаздольнага мужчыны ў снежні склалі 3 620 рублёў, а ўвесь "спажывецкі кошык" — 6 241 рубель.

· З 1 студзеня 1993 года ў Мінску ўведзены карткі на прадукты харчавання (цукар, мучныя, гарэлачна-вінныя вырабы, масла і алей), гаспадарчае і туалетнае мыла, пральныя парашкі, тытунёвыя вырабы. На сям'ю выдаецца картка, маючы якую, толькі ў вызначаным магазіне можна атрымаць належную колькасць тавараў.

· У Беларусі ў 83 выпадках са 100 хабар бяруць грашыма. Сярод тых, хто дае хабар, на першым месцы прадпрымальнікі — 24 працэнты. А бяруць ахвотней за ўсіх работнікі гандлю і загадчыкі рознымі складамі.

· Па патрабаванню пажарнікаў у Магілёве спынена будаўніцтва вышынных дамоў. Абласная пажарная ахова не мае такіх сучасных тэхнічных сродкаў, якія забяспечвалі б магчымасць змагацца з агнём вышэй 9-га паверха.

· Летась лясныя пажары спяжылі 18,6 тысячы гектараў лесу. Згарэла і пашкоджана звыш 1 мільёна кубічных метраў лесу на корані — 19 працэнтаў гадавога аб'ёму высечкі драўніны. Страты ў лясной гаспадарцы складаюць каля 227 мільёнаў рублёў.

· Многа жанчын, занятых у аўтамабільным, трактарным і сельскагаспадарчым машынабудаванні, працуюць у шкодных умовах толькі таму, што трэба неяк жыць і карміць сям'ю. 80 працэнтаў з ліку беспрацоўных у гэтай галіне складаюць жанчыны.

*З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ*

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАТРЫЯТЫЗМ І ХРЫСЦІЯНСКАЯ МАРАЛЬ

**21 снежня 1992 года ў Мірскім замку адбылася сустрэча Старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаслава КЕБІЧА з творчай інтэлігенцыяй рэспублікі, дзе ён выступіў з вялікай прамовай. Гэта было першае такое выступленне прэм'ера, і яно мае праграмнае значэнне. Падаём фрагмент прамовы, што датычыць культуры і духоўных праблем развіцця нацыі.**

Асобная праблема, можна сказаць, боль душы — наш духоўны стан, наш нацыянальны менталітэт. Бо ў канчатковым выніку вельмі важна, якія духоўныя каштоўнасці мы перадамо моладзі, дзецям і ўнукам, з якімі ідэаламі і маральнымі прынцыпамі ўвойдзем у сусветнае супольніцтва і зробім крок у будучыню.

Калі грамадства выбірае для сябе ў якасці ідэалу свабоду, дабрачыннасць, вартасць асобы, дык жа натуральна сёння звярнуцца да хрысціянскай традыцыі, у глыбінях якой чалавецтва зрабіла гіганцкі крок да самапазнання і вяршынь духоўнасці, а індывід стаў асобай за свае правы і ўчынкі.

Адмаўленне хрысціянскіх дабрадзействаў — любві і справядлівасці, іх вульгарнае падпарадкаванне рэвалюцыйнай мэтазгоднасці спарадзілі вялікую духоўную трагедыю нашага грамадства.

Мне падчас здаецца, што мы стаім на краі духоўнай бездані. Сёння амаральнасць стала правілам, ашуканства, падман і цынізм — звычкаю. Адбылася дзіўная метамарфоза людзей з самых розных слаёў.

Я разумею, што глыбінная прычына такіх з'яў крыецца ў эканоміцы. Пачварныя эканамічныя адносіны найперш спараджаюць маральны, як кажуць, тлум. Наша сённяшняе жыццё — красамоўны таму прыклад. Вакханалія ў эканоміцы выклікала цэлую хвалю ваяўнічага амаралізму, выкінула на паверхню грамадскага жыцця сквапныя мафіёзныя групы дзялкоў-драпежнікаў ці проста цёмных асоб, якія імкнуцца любой цаной пагрэць рукі на нашых цяжкасцях, прадаць і пусціць на вецер усё, абы хутчэй напхаць кішэні. Даступнасць лёгкага абагачэння разбэшчвае маладых людзей, адвучвае іх ад працы, спараджае атмасферу ўсёдазволенасці, беззаконня.

Якой бы цяжкай ні была эканамічная сітуацыя, менавіта амаральнасць — найбольшая пагроза нашаму нацыянальнаму суверэнітэту. Не хацелася б прыводзіць горкія параўнанні, але ж старажытныя цывілізацыі (у прыватнасці, Рымская) гінулі ад разбурэння маральнасці. Настаў час усім нам, і перш за ўсё інтэлігенцыі, якая з'яўляецца душой і розумам нацыі, а таксама сродкам інфармацыі, незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці, узняць голас у абарону дабрыні, гонару, сумленнасці, прыстойнасці, дабрачыннасці.

Найпершы абавязак дзяржавы заключаецца сёння ў тым, каб вярнуць народу духоўныя каштоўнасці, у тым ліку каштоўнасці хрысціянскага вучэння, якое ўвасабляла і ўвасабляе мараль і сумленне беларускай нацыі.

Бездухоўнасць, апанаваўшая наша грамадства, абапіраецца яшчэ і на нашу абяздоленую гістарычную памяць. Я нічога не маю супраць таго, каб нашыя дзеці цікавіліся асобаю Аляксандра Неўскага, але адначасова я і за тое, каб яны ведалі, чым быў у нашай гісторыі Полацк і хто такія крывічы, што такое Вялікае Княства Літоўскае, які наогул гістарычны шлях зямлі беларускай.

Нацыянальнае ў свядомасці не можа скласціся ў выніку добрых пажаданняў. Калі мы нацыя, то ў нас абавязкова павінны быць свае нацыянальныя святыні. З тым арсеналам нацыянальнага, які мы атрымалі ў спадчыну, нам нялёгка фарміраваць нацыянальную свядомасць, пераконваць нашых сучаснікаў і нашчадкаў, што мы маем гісторыю нашай дзяржаўнасці і што мы не якія-небудзь Іваны-бязродзічы. Той факт, што сёння многія беларусы не ўмеюць чытаць па-беларуску, а часам саромеюцца гаварыць на роднай мове і не могуць пераадолець пакуль што гэты сорам, яшчэ раз пацвярджае, як разбурылі мы свой нацыянальны менталітэт. Таму такімі неабходнымі і каштоўнымі з'яўляюцца сёння любыя намаганні, дзяржаўныя і грамадскія ініцыятывы па адраджэнні нацыянальнай гісторыі. Я з велізарным натхненнем, напрыклад, даведаўся пра пачынанне групы мінскіх падзвіжнікаў, якія ствараюць у рэспубліцы музей нацыянальнай гісторыі, і вельмі хацеў бы падтрымаць гэту важную працу.

Нацыянальны патрыятызм у спалучэнні з хрысціянскім дабрадзействам і мараллю павінны скласці духоўную апору нашага народа. Тут, на гэтым шляху, мы набудзем моц і волю, каб выбрацца з крызісу, зрабіць крок наперад, стаць на адзін узровень з цывілізаваным грамадствам.

Аднак я з трывогай назіраю, як замінае расчышчаць шматгадовыя нагрувашчванні на гэтым шляху правінцыялізм, для якога характэрна неўспрыманне іншых, хай сабе і правільных думак. Групаўшчына, амбіцыйнасць — гэты ўедлівы вірус, які праняў частку нашай інтэлігенцыі, нівеліруе творчую асобу, падрывае яе маральнасць.

Вельмі небяспечнымі я лічу для грамадства заявы асобных дзеячаў, якія ў сваім жаданні, зразумелым і высакародным, адрадзіць нацыянальную культуру гатовы пайсці на любыя, нават самыя крайнія меры. Нам ні ў якім выпадку нельга дапусціць нават нязначнага ўшчамлення іншых культур ці якіх-небудзь абмежаванняў па прыкмеце нацыянальнасці. Гэта найперш датычыцца і моўнай праблемы, якая сёння хвалюе многіх. Тут патрэбны мудрасць і разважлівасць, спакой і павага адзін да аднаго.

# МЫ НЕ ПАСЫНКІ ТВАЕ, БЕЛАРУСЬ!

## ПАД ТАКІМ ДЭВІЗАМ ПРАЙШОў У МІНСКУ ПЕРШЫ СХОД БЕЛАРУСАў БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

каўшчыне і ў асяродках беларускага замежжа па рэгіёнах і краінах пражывання; асаблівасці вайсковай праблематыкі і двайнога грамадзянства; дзяржаўная палітыка ў адносінах да дыяспары.

Напачатку ў некаторых прамовах прысутнічала засцярога, каб сход не ператварыўся адно ў арэну палітычнага супрацьстаяння.

— Не трэба палітычных крытэрыяў, а патрэбны нацыянальныя. Інакш мы давядзём згуртаванне да палітычнай секты, якая прымае альбо выкідвае членаў. Аднолькава маюць рацыю камуністы і антыкамуністы, капіталісты і пралетарыі, веруючыя і атэісты, — звяртаўся да перапоўненай залы старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства з Беластока Алесь Барскі. "Мы — госці, і нягожа папракаць гаспадароў", — быў лейтматыў выступу П. Малафея з Літвы. М. Дзямчук выказаў пажаданне, што сёння галоўнае — аб'яднанне вакол Бацькаўшчыны блізкага і далёкага замежжа.

Тым не меней палітычныя страсці раз-пораз завалодвалі залай, хоць з рэдкімі, але праявамі нецярпення, іншадумства.

Урэшце, сход уяўляў сабой зрэз наэлектрызаванага грамадства як Беларусі, так і тых краёў, адкуль прыехалі дэлегаты. Аднак атмасфера ў Доме літаратара не дайшла да крытычнай адзнакі. Дужа многа чаго хвалявала, патрабавала вырашэння.

2. В. БЫКАЎ: "ШТО ДА НАС, ДЫК ІСЦІНА ФАРМУЛЮЕЦЦА ВЕЛЬМІ АДНАЗНАЧНА: НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СВЯДОМАСЦЬ, ЯЕ УЗРОВЕНЬ".

У сваім блакноце я неаднаразова памячаў, што людзей клікала да мікрафона занепакоенасць марудным развіццём адраджэння на Беларусі, грэбаваннем закона аб мове. Бо ясна: як пойдзе нацыянальна-культурнае аднаўленне на Бацькаўшчыне, так яно будзе весціся і ў замежных суполках. На гэтую тэму прамаўлялі акадэмік Р. Гарэцкі (г. Мінск), Л. Луцкевіч (г. Вільня), М. Байкалаў (г. Ніжні Ноўгарад). У. Кандраценка з Букавіны нават прыгадаў, што турэцкія янычары вербаваліся ў тым ліку і з тых славян, хто не меў у душы ні пачуцця радзімы, ні адказнасці за свой род.

Старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч выказаў нязгоду са зваротам да парламента трох акадэмікаў беларускага паходжання з Новасібірска, у якім вучоныя стаяць за наданне рускай мове правоў дзяржаўнай:

— Ніякай пагрозы рускай мове няма, ёсць пагроза нашай.

— Пытанні духоўнага адраджэння, адраджэння нашай мовы, нашай культуры ў гэты час з'яўляюцца найважнейшымі... Там, дзе адрадзілася беларуская мова, там адрадзілася мараль, там адрадзілася дабро, там адрадзілася хрысціянская вера, — былі словы З. Пазьняка на гэты конт.

Чым жа жывуць, як пачуваюцца беларусы блізкага замежжа? Што яны самі пра тое расказалі?

БЕЛАСТОЧЧЫНА. Паводле А. Барскага, калі Беларусь не дапаможа, праз 5-10 гадоў памрэ нацыянальнае адраджэнне на беластоцкай зямлі. Адзіная яго праява сёння — цікавасць да роднай песні, але і ёй пагражае знікненне. Ніколі не было паміж беларусамі і палякамі Беласточчыны ярай агрэсіўнасці. Цяпер з'явілася. Калі прэм'ер Польшчы Г. Сухоцка знаходзілася на Беларусі, у Беластоку перад будынкам БГКТ прайшла маніфестацыя з пагрозамі і выбіваннем вокнаў.

20 гадоў назад на Беласточчыне было 170 беларускіх школ (100 чыста нацыянальныя, а ў 70 беларуская мова вывучалася як прадмет), у якіх праходзілі навучанне 12 тысяч дзяцей. А цяпер у 50 школах, дзе родная мова выкладаецца адно як прадмет, вучацца 4 тысячы.

ПРЫБАЛТЫКА. Аб праблеме беларуса, які стаў эмігрантам на Віленшчыне, гаварыў супрацоўнік рэдакцыі газеты "Наша ніва" С. Харэўскі. 63 тысячы беларусаў жывуць у Літве, але 200 тысяч лічаць роднай мовай беларускую. Многія беларусы не атрымалі літоўскага грамадзянства, аднак яго набылі ўсе расейцы. А грамадзянства дае чалавеку першнаперш правы. Напрыклад, галоўным рэдактарам газеты не можа быць неграмадзянін Літвы.

Рвуцца сувязі, якія існавалі стагоддзямі. Каб прыехаць з Літвы ў Беларусь, трэба будзе плаціць недзе 10 долараў, мажліва, што будзе ўведзены візавы рэжым. Тэлефонная размова з Мінска ў Вільню каштуе 70 рублеў, з Літвы ў Мінск 16 талонаў, з Петрапаўлаўска-Камчацкага 12 рублёў...

На Віленшчыне паўсталі беларускія клубы і таварыствы, заснаваныя тэхнічнай інтэлігенцыяй. Аднак жа для іх работы не хапае гуманітарыяў: журналістаў, выкладчыкаў. Беларускаму ўраду можна было б дамовіцца з літоўскім аб забеспячэнні іх жыллём. Тым больш, што Літва будуе для сваіх спецыялістаў кватэры на Беларусі.

Старшыня Таварыства беларускай мовы з Вільні Хведар Нюнька прапанаваў прыняць зварот да кіраўніцтва рэспублікі аб стварэнні камісіі па справах музея Івана Луцкевіча, Якуба Коласа, мастака Пётры Сергіевіча, Базыльскіх муроў.

З увядзеннем эстонскім парламентам у дзеянне вядомых законаў аб грамадзянстве немалая колькасць нашых суайчыннікаў, як паведаміў А. Лапышаў, страціла работу. Многія, жадаючы пераехаць на Беларусь, звярнуліся ў Вярхоўны Савет і атрымалі адмову. У беларусаў з Эстоніі няма іншага выйсця, як набываць расейскае грамадзянства.

Такая ж балючая праблема, аб якой распавядаў і А. Жук (Таварыства беларускай мовы "Світанак", Рыга), у поўнай меры тычыцца і нашых землякоў з Латвіі, дзе, відаць, самае складанае заканадаўства.

МАЛДОВА. Полымя зацяжных канфліктаў і войнаў, што шугае ў "гарачых" кропках Садружнасці, перашкодзіла некаторым нашым землякам адтуль дабрацца ў Мінск. Прыехала адно дэлегацыя з Малдовы. Гэта нам лёгка сказаць "вайна"... Каму з палітыкаў баліць галава з-за таго, што беларусы, седзячы ў акопах на супрацьлеглых берагах Днястра, вымушаны страляць адзін у аднаго? Дзеля чыіх інтарэсаў перацірае іх малатарня смерці?

"Перад намі — праблема выжывання", — менавіта такім чынам ацаніў сітуацыю старшыня абшчыны "Беларусь" горада Кішынёва А. Гізатулін. Спадзявацца няма на каго, і суайчыннікі Малдовы дзейнічаюць. Цяпер пра беларусаў там ведаюць. У абшчыне працуюць сем камітэтаў, якія займаюцца самымі надзённымі справамі. Ад захадаў культурнага зместу да дапамогі старым, хворым і пакінутым. Беларус з Малдовы заклікаў да хутчэйшай канкрэтнай работы: стварыць інфармацыйны і эканамічны цэнтры, вызначыць дзяржаўную праграму дапамогі, заснаваць каардынацыйна-кансультатыўны камітэт.

Г. ЛАПЦЕВА, таварыства "Беларусь" (Бендэры, Тыраспаль): 6 тысяч беларусаў жывуць у Прыдняпроўі. Падчас ваенных дзеянняў пацярпелі 8 беларускіх сем'яў, згарэлі іхнія дамы. Людзі просяць беларускі ўрад аказаць матэрыяльную помач. У тую ліхую гадзіну па гарадах Прыднястроўя ездзілі аўтобусы з ізраільскімі сцягамі. Вывозілі яўрэяў у Ізраіль і давалі на адзін год прыстанішча. Бацькаўшчына ж маўчала... Кіраўніцтву Беларусі пры падпісанні дамоўленасцей з Малдовай трэба патрабаваць гарантыі міру для малдаўскіх беларусаў.

РАСІЯ І УКРАІНА. У абедзвюх краінах варункі жыцця і адраджэнскай дзейнасці значна больш спакойныя і спрыяльныя, — маскоўскае аб'яднанне беларусаў Масквы "Бацькаўшчына", — дзяліўся са мной навіной яго старшыня А. Глод, — з дапамогай беларускага ўрада атрымлівае памяшканне плошчай 300 квадратных метраў. Астатняе залежыць выключна ад нас.

Беларускае таварыства ў Санкт-Пецярбургу збіраецца 2 разы ў месяц у этнаграфічным музеі. Яго сябры, 24 чалавекі, выдаюць газету "Родзічы", ушаноўваюць памяць ахвяраў сталіншчыны, вядуць разам актыўную культурна-асветніцкую работу, хоць не ўсе прытрымліваюцца аднолькавых палітычных поглядаў. Старшыня таварыства В. Грыцкевіч, расказаўшы аб гэтым, прапанаваў: прыцягваць у Раду Згуртавання "Бацькаўшчына" прадстаўнікоў беларускага блізкага замежжа.

Як стала вядома прысутным са слоў А. Цімошчанкі, некалькі месяцаў таму на Галіччыне, што налічвае 40 тысяч нашых адзінакроўных братоў, заснавалася сябрына "Белая Русь". І першай на Украіне сярод беларускіх суполак атрымала юрыдычны статус.

Р. Чырвонцаў з Маскоўскага Савета лічыць, што і замежныя беларусы могуць нямала зрабіць на карысць Айчыны. Чаму не заснаваць, па прыкладу Арменіі, фонд інтэлектуальнага і тэхнічнага развіцця? Чаму не быць у зарубежных краінах беларускаму лобі, якое падтрылівала б і спрыяла нацыянальным інтарэсам.

З.Л. ЛЫЧ: "НЯМАЛА МЫ ПРЫТУЛІЛІ ІНШЫХ БЕЖАНЦАЎ, ЧАС ПАДУМАЦЬ ПРА СВАІХ".

Няпростая размова завязалася на трыбуне сходу вакол пытання аб беларускім войску, яго будучыні, сённяшнім стане, вяртанні беларускіх афіцэраў з іншых дзяржаў СНД. Задачу войска міністр абароны П. Казлоўскі бачыць у служэнні Бацькаўшчыне, яго склад — шматнацыянальным. Міністр заклікаў да палітычнай стрыманасці, паступовага развязвання ўсіх вузлоў. "Паміж паняццямі "нацыянальнае адраджэнне" і "забеспячэнне боегатоўнасці" не павінна быць ізаляванасці", — заявіў прамоўца. Ён адхіліў абвінавачванні ў карупцыі сярод армейцаў і праследаванні членаў Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ).

Прадстаўнік Міністэрства абароны У. Танана прывёў статыстыку, якая ў пэўнай ступені ілюструе работу гэтага ведамства па вяртанню афіцэраў-беларусаў: з мая на пачатак снежня гэтага года на Беларусь пераведзена 4 697 афіцэраў, з іх 944 з канфліктных рэгіёнаў СНД. У 1993 годзе запланавана перавесці на Беларусь 4 730 афіцэраў і прапаршчыкаў, з каторых 2 833 — выпускнікі ваенных вучылішчаў. Усяго падана 13 400 заяў з просьбай аб вяртанні.

Апанiравалі Міністэрству абароны афіцэры, сябры і прыхільнікі БЗВ на чале з яго старшынёй М. Статкевічам. "У нас адзін праціўнік — ворагі незалежнасці, — сказаў ён, — гэта чырвона-карычневая расійская апазіцыя". Прамоўца прывёў прыклады праследавання за ўдзел у БЗВ, а таксама карупцыі.

Ю. ШЫМКО (г. Уладзімір) прапанаваў распрацаваць дзяржаўную праграму вяртання і ўладкавання беларускіх афіцэраў. С. Суднік (г. Мінск) — паступова перавесці беларускае войска на нацыянальную мову, Я. Яўменчык (г. Цвер) — адкрыць Ваенную акадэмію Беларусі і аддзяліць ваенныя даследаванні пры Акадэміі навук.

Але найбольш часу і высілкаў запатрабавала ад прысутнай грамады абмеркаванне комплексу пытанняў, што звязаны з двайным грамадзянствам, ад якога залежаць лёсы і цывільных, і ваенных нашых суродзічаў, а таксама стабільнасць сітуацыі ў рэспубліцы.

У перапынках паміж пасяджэннямі супрацоўнікі розных міністэрстваў і ўстаноў давалі кансультацыі ўсім зацікаўленым асобам. І самая вялікая іх колькасць кіравалася да століка МЗС зноў жа з тым самым галаўным болем — як здабыць грамадзянства. І як паказала абмеркаванне, не было тут адзінай трактоўкі.

— Я перакананы, — гаварыў С. Шушкевіч, — што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь надасць грамадзянства ўсім вайскоўцам, хто перайшоў да нас сюды, і што 31 снежня гэтага года беларускае войска прыме прысягу і мы будзем мець яшчэ адзін фрагмент усталявання нашай дзяржавы.

Прыблізна такой жа пазіцыі прытрымліваўся і старшыня Камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета М. Слямнёў. Спецыяльна па гэтай тэме выступіў З. Пазьняк, які назваў "нулявы варыянт" Закона аб грамадзянстве вельмі дэмакратычным.

Расшыранае тлумачэнне таксама ў асобным выступленні зрабіў кіраўнік вышэйшага дыпламатычнага ведамства Беларусі П. Краўчанка. Ён адзначыў, што беларусы, якія мелі пашпарт былога СССР і не атрымалі, напрыклад, эстонскага грамадзянства, могуць вярнуцца на Беларусь ці застацца і карыстацца так званай "зялёнай картай", г. зн. правам жыць і працаваць у Эстоніі, а знаходзіцца пад юрыдычнай апекай Беларусі.

Стасункі ўрада да замежных суайчынікаў былі пазначаны, акрамя міністра замежных спраў, таксама іншымі яго прадстаўнікамі альбо непасрэдна ля мікрафона сходу, альбо на брыфінгу і прэс-канферэнцыі. Намеснік Старшыні Савета Міністраў М. Дзямчук вытлумачыў агульныя накірункі дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да беларускага замежжа. Гэта арганізацыя інфраструктуры нацыянальнага адраджэння за межамі Бацькаўшчыны, у якой беларускія таварыствы выступалі б як яго дзейнікі і асяродкі кансалідацыі; заключэнне двухбаковых пагадненняў з краінамі пражывання беларусаў і адкрыццё там паўнамоцных прадстаўніцтваў; стварэнне Дэпартамента па справах дыяспары; выпрацоўка канцэпцыі дзяржаўнай праграмы "Беларусы свету". Было падкрэслена, што вялікае значэнне сходу ў тым, што ён служыць першым крокам у падрыхтоўцы да з'езда беларусаў свету, які мае адбыцца летам 1993 года.

Сход беларусаў блізкага замежжа ўхваліў выніковыя дакументы: праект Звароту да парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь па пытаннях узаемадзеяння з дыяспарай, Звароту да беларусаў свету, да парламентаў і ўрадаў дзяржаў, якія ўваходзілі раней у склад СССР, Заяву ўдзельнікаў Першага Сходу беларусаў блізкага замежжа.

Апрача таго, што ўдзельнікі сходу былі заняты ў афіцыйнай яго частцы, яны ўсклалі кветкі да помнікаў дзеячам беларускага нацыянальнага адраджэння і прысутнічалі ў Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі на прэм'еры спектакля "Князь Наваградскі".

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**



**НА ЗДЫМКУ: Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ з дэлегатамі сходу суайчыннікаў блізкага замежжа.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

**Рождество Твое, Христе Боже наш, возсия мирови свет разума, в нем бо звездам служащии звездою учахуся Тебе кланятися, Солнцу правды, и Тебе ведети с высоты Востока. Господи, слава Тебе!**

**Трапар Раждзжаства Хрыстовага**

# УЗЛЮБЛЕНЫЯ КЛІР І ПАСТВА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ!

Святкуючы дзень Раждзжаства Хрыстовага, мы ісцінна, найперш, павінны ўславіць і ўдзячыць Бога за мудра прыгатаваны нам шлях уратавання ад грэху і вечнае смерці.

Евангеліст Іаан Багаслоў перадае нам сведчанне Сына Божага, Які сказаў пра Сябе: "Тако бо возлюби Бог мир, яко и Сына Своего единороднаго дал есть, да всяк веруяй в Онь не погибнет, но имать живот вечный" (Ін. 3, 16).

Так, вялікая і непамерная любоў Бога да нас, слабых і немачных людзей, — любоў Госпада нашага Ісуса Хрыста, Які прыняў вобраз чалавечы, папраў грэх і смерць і прадабвясціў Сваім Уваскрэсеннем радасць усеагульнага ўваскрэсення з мёртвых.

Што можа быць вышэй за гэтае сашэсце?! Нічога ва ўсім сусвеце не параўнаецца з ім па вышыні і ахвярнасці любві, яўленай Госпадам нам у настаўленне.

Бог бясконцы і беспачатковы, пагардзіўшы нявартасць паўшага і заблукалага свету, увасобіўся ў чалавека і "... Себе умалил, зрак раба приим, в подобии человечестем быв, і образом обретеся, якоже человек: смирил Себе, послушлив быв даже до смерти, смерти же крестныя" (Флп. 2, 7-8). Таму разам са свяціцелем Кірылам Тураўскім усклікнем у дзень Раждзжаства: "Велика и неизреченна милость Его на роде человечестем, ею же помилованы быхом"!

Браты і сёстры! На вялікую Хрыстовую любоў чым адкажам мы, як не любоўю; на міласэрную спагадлівасць да нас, нявартых Госпада, чым адзавемся мы, як не пасільным учыненнем дзеяў міласэрнасці? Паслухаем яшчэ Тураўскага Залатавуста, які не стамляўся заклікаць сваю паству: "Останемся от злых дел, изыдем любовью, сложим гневодержание, воскликнем молитвами и беззлобием, придем милостынями к нищим!"

А што мы? Чым штодзённа адказваем на ахвярную любоў Божую? Ціхмянасцю? — яе мала ў нас; пакаяннем? — мы каемся недастаткова; міласцінай? — мы нярэдка адмаўляем у ёй немаёмным. На што надзеемся і спадзяемся мы, слабеючы ў малітве, азлобленыя адзін да аднаго, імкнучыся часцей да таго, што не параўнальна з духоўнымі скарбамі, набыццё якіх запавядана нам Госпадам у Нагорнае пропаведзі?!

Задумаемся, узлюбленыя, над веліччу ахвяры, што прынесена за нас Хрыстом, — і якім жа вялікім павінна быць пакаянне, наша імкненне надалей быць лепей, чым мы ёсць сягоння!

Узлюбленыя! Мінулы год быў азнаменаваны святкаваннем 1000-гадовага юбілею Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Дзесяць вякоў прайшло з тых часін, як благадатнае зерне Праваслаўя было пасеена на нашай зямлі. За гэтыя стагоддзі змянілася мноства пакаленняў людзей, адышлі ў нябыт розныя дзяржаўныя ўладкаванні, да непазнавальнасці змяніўся грамадскі ўклад, і толькі святая Царква з яе вечнаю пропаведдзю любві і дабра, з яе імкненнем да міру і згоды ў сэрцах людзей — застаецца нязменнаю і, нягледзячы на ўсе перажытыя ўціскі і разбурэнні, захоўвае вернасць свайму Заснавальніку — Госпаду нашаму Ісусу Хрысту!

Дзесяць стагоддзяў, што прайшлі з часоў зладжання Царквы на Беларусі, былі адзначаны адметнымі дасягненнямі ў царкоўнай культуры: з'яўленнем выдатных твораў багаслоўя і прапаведніцтва, пабудовай цудоўных храмаў, шырокім распаўсюджаннем кніжнае справы, іконапісу, яўленнем у народзе падзвіжнікаў благачэсця — святых, што праззялі ў зямлі Беларускай.

Браты і сёстры! У наш няпросты, цяжкі час важна ва ўсёй паўнаце ўспрыняць дары гэтй найбагацейшай духоўнае спадчыны, не разгубіць яе, але далучыцца да яе скарбаў. Неабходна, уз'яднаўшы сувязь часоў, перарваную ў папярэднія гады, працягнуць традыцыю складання царкоўнага жыцця: пабудову храмаў і манастыроў, добраўпарадкаванне прыходаў, пашырэнне царкоўнага настаўніцтва праз пропаведзь і работу нядзельных школ, — і ўсё гэта павінна ўчыняцца пры захаванні міру ва ўласных нашых сэрцах.

Шлях гэты — безумоўна цяжкі, асабліва цяпер, калі руйнуецца шмат з таго, чым мы жылі яшчэ нядаўна, калі ўсё неверагодна даражэе і толькі жыццё чалавечае — гэты свяшчэнны дар — з кожным днём абясцэньваецца магутным націскам гвалту і распуснасці нораваў.

І аднак, нягледзячы на суровасць нашых будняў, на іх мітусню і складанасць, я заклікаю вас, дарагія суайчыннікі, не падаць духам, але, па слове апостала Паўла, любоўю служыць адзін аднаму, бо ўвесь закон у адзіным слове заключаны: "возлюбиши ближняго твоего, якоже себе" (Гал. 5, 14). Таму, наследуючы Апосталу, "не бываим тщеславни, друг друга раздражающе, друг другу завидяще" (Гал. 5, 26), але "дондеже время имамы, да делаим благое ко всем..." (Гал. 6, 10).

У духу гэтае запаведзі Апостала я сардэчна віншую са святам Раждзжаства Хрыстовага іншаслаўных паслядоўнікаў Госпада нашага Ісуса Хрыста, што жывуць на Беларусі, і жадаю ўсім дабра і міру.

Узлюбленыя ў Госпадзе Праасвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, багалюбныя інакі і ўсе благачэсныя чады Беларускай Праваслаўнай Царквы! Пакі ўзрадуемся Раждзжаству Хрыстоваму і ўслед свяціцелю Кірылу Тураўскаму "песньми, яко цветами, Святую Церковь увенчаем и праздник сей украсим!"

Ад усёй душы віншую вас з вялікім і ўратавальным святам Раждзжаства Хрыстовага і жадаю вам у новым годзе Божай успамогі і заступніцтва Найблагаславёнейшай Маці і Дзевы і хадайніцтва ўсіх святых, што праззялі ў Бозе па ўсім сусвеце. Амінь.

**ФІЛАРЭТ,**
**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**
**Раждзжаство Хрыстовае, 1992—1993 гг.**
**г. Мінск.**

## З НАШАЙ ПОШТЫ

# НЕ ПЛЮЙ У КАЛОДЗЕЖ...

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!

З вялікай цікавасцю прачытаў артыкул Алены Спасюк у "ГР" N 35 "Ці патрэбна інжынеру веданне гісторыі?" І вырашыў падзяліцца сваімі ўражаннямі і меркаваннямі. У нас грыміць адвечная бойка паміж фізікамі і лірыкамі. Але я лічу, што любому фізіку трэба быць паэтам у душы, нават калі ён і не ўмее пісаць прыгожых вершаў. А любы паэт павінен умець адрамантаваць кран у цешчынай кватэры. А музыка павінен умець змазаць дзверы, каб яны не рыпелі.

Нашы ВНУ адышлі ўжо ад навуковых камунізмаў, палітэканоміі сацыялізму, гісторый КПСС і КПБ. Аказалася, што ў беларускага народа ёсць цудоўная ваенная гісторыя. Ёсць Аршанская бітва. Ёсць паўстанне пад кіраўніцтвам нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Ёсць партызанская барацьба нашага народа ў вірлівы час Вялікай Айчыннай вайны.

Ёсць таленавітыя друкары Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі і Сымон Будны... А мы ж доўгі час крычалі, што мы бедная нацыя, а гэтая нацыя "накарміла" сваімі іконамі і карцінамі, ручнікамі і сурвэткамі, летапісамі і архівамі ўсю Еўропу...

Сёння відавочна, што загінуў не капіталізм, а камунізм, што тыя, хто пацярпеў паражэнне ў вайне, кормяць пераможцаў свіной тушонкай, якую нам дасылаюць праз гуманітарную дапамогу.

А Беларусь зноў працягвае карміць СНД бульбай — у той час, калі ўласнаму народу яе не хапае. А прадстаўнік інтэлігенцыі павінен мець свядомасць і нацыянальную годнасць, нават калі ў кішэні — дыплом інжынера.

Згодны з А. Спасюк і не згодны з С. Дзянісавым, што медыку не патрэбна ні гісторыя, ні мова, ні мастацтва. Такі абмежаваны доктар не будзе любіць сваіх пацыентаў, беларусаў. Доктар жа лечыць пацыента з яго духам і псіхічным складам, а не мёртвага робата.

Іншая справа, што павінна клапаціцца дзяржава, каб доктару не трэба было браць у рукі рыдлёўку і здабываць карысныя выкапні ў выглядзе бульбы-морквы на ўласным кавалачку малаўрадлівай зямлі.

Згодны з Аленай Спасюк, што менавіта сур'ёзнае вывучэнне палітычнай гісторыі выхоўвае непрыняцце насілля ў любым выглядзе. Як педагог я вельмі не люблю дзіцячую гульню ў вайну. Дзецям трэба забараніць гуляць у такія гульні. Мы павінны даваць падрастаючаму пакаленню не ваенна-патрыятычнае, а нацыянальна-патрыятычнае выхаванне. Вучні і студэнты павінны быць у нас не кваснымі патрыётамі, не людзьмі перакаці-поле, не цяплічнай нацыяй.

Мы, несучы беларускую годнасць і свядомасць, павінны не толькі "людзьмі звацца", але быць імі на самай справе, актыўна супрацоўнічаючы з іншымі цывілізаванымі краінамі. І школьнікі, і студэнты беларускай нацыянальнасці павінны сябраваць са сваімі равеснікамі іншых нацыянальнасцей.

Каб не было вайны, трэба ведаць гісторыю войнаў. А то ядзерныя фізікі зробяць новую мудрагелістую зброю і ... пачнуць ваяваць.

У навуцы на сучасным этапе галоўнае — шматканцэптуальнасць і плюралізм думак выкладчыка і студэнта ВНУ. Ёсць сярод старых выкладчыкаў ВНУ кашчэі бессмяротныя, якія не могуць і не ўмеюць працаваць цікава, творча, па-новаму. Але ёсць сярод іх і шмат такіх, якія цэняць студэнта за розум і таленавітыя навуковыя працы. Бяздарных выкладчыкаў ВНУ, безумоўна, трэба адпраўляць на пенсію.

І яшчэ адну істотную думку закранула ў сваім артыкуле А. Спасюк. Сапраўды, каляндарны падыход да гістарычных падзей мінуўшчыны — неправамоцны. А сённяшнія настаўнікі, успамінаючы пра калектывізацыю, гавораць пра яе хібы з пазіцый сённяшняга дня. Таксама ацэньваюцца і рэвалюцыйныя падзеі. Усіх стала палохаць нават слова "рэвалюцыя".

А слова "рэвалюцыя" — самае святое. Іншая справа, што рэвалюцыйную перабудову грамадства трэба праводзіць рэвалюцыйным шляхам, але без крыві...

Аднаўленнем усяго старога, не стварыўшы пры гэтым нічога істотна новага, грамадства можа прыйсці толькі да абсурду. Чыстымі ў нас тады змогуць аказацца толькі дзеці — і то яны ўжо з забруджанымі чарнобыльскімі генамі.

Мне больш падабаецца, дарэчы, энтузіязм камсамольцаў 20—50-х гадоў на Беларусі, чым сённяшні гнілы дэмакратызм і пачварная анархія.

А сённяшнія лідэры Саюза моладзі Беларусі займаюцца адной спекуляцыяй. Ім, на чале з А. Фядутам, не патрэбны ні сэрцы моладзі, ні іх душы.

Культ нажывы, насілля і грошай — вельмі злы культ, мяне ён палохае. Нават культ роднага слова не хоча прапагандаваць СМБ. Дык навошта моладзі рэспублікі такая арганізацыя? Каб яе лідэры раз'язджалі па глобусу з вялікімі авоськамі спекулянтаў?

Я ўпэўнены, што нават жыллёвая праблема даўно вырашана ў рэспубліцы. Проста зноў жа спекулянты на дзяржаўным узроўні валодаюць часта 3—4 кватэрамі і здаюць іх тым, хто не мае жылля, за вялікія грошы.

Патрэбны народу не рэферэндум. Рэферэндум — гэта абстрактны туман. Народу патрэбны перапіс жыллёвага фонду рэспублікі. І тады ўсе ўбачаць, што жыллёвая праблема вырашана...

Але ўрад наш, анархічны і кар'ерысцкі, не пойдзе на такі крок. Бо ў такім разе трэба і ім будзе аддаваць свае 120-метровыя кватэры і асабнякі.

Ёсць народная мудрасць: не плюй у калодзеж... М. Гарбачоў сваю дзейнасць пачаў з ахайвання сваіх папярэднікаў. І як вынік: сёння народ аплёўвае яго, цвярозага лідэра, які так любіць спажываць лімонную гарэлку.

Усенародны суд не патрэбны, бо, сапраўды, не хопіць лавак для падсудных, ды і суддзяў давядзецца потым яшчэ судзіць. У кожнага чалавека ёсць свае грахі і балючыя месцы. Святых наогул не існуе.

Калі б мы зноў апынуліся ў становішчы малпы, то не хапіла б дрэў у лесе, бо ад роднай прыроды хутка застанецца толькі ўспамін.

Трэба не аплявузгваць таго, хто памыліўся, а вучыцца на яго памылках...

Так што веданне гісторыі роднага народа не пашкодзіць любому беларусу. Інакш у XXI стагоддзі нашы нашчадкі не даруюць нам такіх абыякавых адносін да айчыннай гісторыі, культуры, мовы, наогул, — спадчыны.

Мы павінны выхоўваць сапраўдных інтэлігентаў і патрыётаў роднай зямлі. Чаму хлебароб увішна працуе на сваёй зямлі? Бо гэта зямля яго продкаў, бо родная зямля — гэта гісторыя роду кожнага беларуса. І гісторыю мы ўсе павінны добра ведаць і сур'ёзна вывучаць.

З павагай

**Кастусь КАРНЯЛЮК,**
**настаўнік СШ N 73 г. Мінска.**

# ПРА ТАРГУНЫ Ў ЗША

Аднойчы я ішла на работу, а каля Дома культуры насустрач выйшлі з машыны двое незнаёмых хлопцаў, і на мяне была накіравана відэакамера. Каля Дома культуры таксама ўсё было заснята камерай, і пачалі мне задаваць розныя пытанні адносна работы. Я спачатку разгубілася, але Уладзімір Карніловіч, які знаходзіўся побач, сказаў, што відэакамера суправаджала яго з дому да работы, заснята была цэнтральная вуліца і моладзь, якая ў гэты дзень ішла ў Дом культуры.

Аказалася, што гэта было зроблена па просьбе Славы Карніловіча, які тры гады таму назад паехаў у ЗША і застаўся ў свайго дзядзькі Сяргея Карніловіча. Атрымаўся цэлы відэафільм, бо заснята была яшчэ аўтабаза, дзе Слава раней працаваў шафёрам, яго бацькі, сям'я Уладзіміра Карніловіча, сястра Славы, што жыве ў Докшыцах.

Цяпер маем паведамленне, што відэафільм пра вёску Таргуны, пра Дом культуры дэманструецца ў беларускім Полацаку ў ЗША. Летам 1993 года мае адбыцца сусветны форум беларусаў у Мінску, і ў саставе амерыканскай дэлегацыі чакаецца прыезд нашых суайчыннікаў — ураджэнцаў Таргуноў.

**М. БАГАМОЛЬНІКАВА,**
**дырэктар Таргуноўскага СДК.**

## НОВАЯ КАНЦЭПЦЫЯ ГІСТОРЫІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ: ФЕДЭРАЦЫЯ ЦІ УНІТАРНАЯ ДЗЯРЖАВА?

Перад тым як пачаць гаворку на вызначаную тэму, скажу колькі слоў, улічваючы важнасць праблемы, пра пабудову сваіх разважанняў.

Найбольш дасканалы, эфектыўны, лагічна апраўданы і праўдзівы шлях спасціжэння ўсялякай гістарычнай з'явы, у тым ліку й сутнасці некалі існуючай дзяржавы, наступны: спачатку аналізуюцца ў развіцці, у храналагічнай паслядоўнасці ўсе дзяржаўна-ўрадавыя інстытуты, вызначаецца іх сутнасць, характар, механізм і скіраванасць функцыяніравання; затым характарызуецца палітычны лад дзяржавы, усе яго элементы і асноватворныя часткі, пасля акрэсліваюцца галоўныя этапы ў станаўленні дзяржавы і нарэшце робяцца падсумаванні, агульныя высновы.

Іншага шляху пазнання гістарычнай з'явы проста не існуе, ці, прынамсі, паводле крытэрыяў еўрапейскага дыскусійнага мыслення, такі падыход лічыцца найбольш дасканалым і правільным. Вядома, манера, прыёмы, сродкі вывучэння гістарычных з'яваў у кожнага даследчыка свае, але метад пазнання, як правіла, агульны.

Менавіта апісаным шляхам ішоў і аўтар гэтых радкоў, калі паўстала задача адказаць на пытанне, што такое Вялікае Княства Літоўскае. Вывучалася прыватнае, усебакова аналізавалася шматаблічнае жыццё Вялікага Княства — духоўныя пошукі, культурнае развіццё, палітычныя працэсы, дыпламатыя, соймавая барацьба, урадавыя канфлікты і г.д. У выніку назапашваліся факты, рабіліся папярэднія абагульненні, а затым агульныя высновы.

У гэтым артыкуле не ставіцца, аднак, мэта раскрыць ва ўсёй паўнаце эвалюцыю асобных дзяржаўна-палітычных інстытутаў Вялікага Княства, хай сабе й найважнейшых, як, напрыклад, — Галоўны З'езд (Вальны Сойм), княская ўлада ці дзейнасць паноў-рады. Гэта справа вузкіх даследаванняў, урэшце, аб'ёмнай гісторыі Беларусі. Тут вызначаюцца агульныя, найбольш істотныя тэндэнцыі развіцця дзяржавы, прапануецца сутнасная характарыстыка ўсіх структураў Вялікага Княства Літоўскага ва ўзаемасувязі, падаюцца высновы-формулы, выпрацаваныя на падставе вывучэння канкрэтна-гістарычных фактаў.

* * *

Вялікае Княства Літоўскае — гэта сярэднявечная Беларуская дзяржава, што паўстала ў XIII-XIV стагоддзях на эканамічным і культурным грунце старадаўніх славянскіх княстваў — Полацкага, Турава-Пінскага ды Смаленскага — у выніку збірання ў XIII стагоддзі Новагародкам вакол сябе суседніх земляў, у тым ліку і тых, што засялялі балцкія плямёны: літва, латыголь, яцвязь і інш.

У сваім развіцці Вялікае Княства прайшло тры асноўныя этапы: станаўлення і ўмацавання — XIII—XIV стагоддзі; росквіту і найвышэйшай магутнасці — XV— першая палова XVII стагоддзя; паступовага аслаблення і заняпаду — другая палова XVII— канец XVIII стагоддзяў.

Пачатковы этап станаўлення новай Беларускай дзяржавы характарызаваўся моцнымі цэнтралізацыйнымі тэндэнцыямі Новагародка, ягонай зацятай барацьбой з Жамойцяй, Галіцка-Валынскай зямлёю, а гэтаксама з крыжакамі — Лівонскім і Тэўтонскім ордэнамі, якія ў 1237 годзе злучыліся, каб супрацьстаяць Новагародскай дзяржаве.

На працягу ўсяго XIII стагоддзя Новагародак няспынна імкнуўся да пашырэння сваіх межаў. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што ўжо новагародскі князь Войшалк (сярэдзіна XIII стагоддзя) канчаткова падпарадкаваў літоўскую, нальшчанскую і дзевалтоўскую землі і зрабіў спробу далучыць Полацка-Віцебскія тэрыторыі. Прыкладна з гэтага часу за Новагародскай дзяржавай замацоўваецца назва "Літва", або "Літоўскае Княства".

Цэнтралізацыйную палітыку Войшалка працягнуў Трайдзень (каля 1270—1282), які імкнуўся пашырыць уладанні Новагародка на поўдні, намагаючыся падпарадкаваць землі, што належалі Галіцка-Валынскаму княству, і на захадзе, ваюючы ляхаў. У 1278 годзе Трайдзень і ягоны брат Сірпуцій здзейснілі ўдалы паход ажно пад Люблін. Трайдзень не толькі адбіваўся ад крыжацкае агрэсіі, але і сам, робячы пераможныя паходы на мечаносцаў, намерваўся забраць землі, якімі валодаў ордэн.

Узвышэнне Новагародскай дзяржавы (Літвы), узрастанне яе моцы не было ўва ўсе перыяды роўным. Так, у 80-я гады XIII стагоддзя пад націскам татарскай Залатой Арды і галіцка-валынскіх князёў развіццё Новагародка прыкметна замарудзілася. Праўда, ужо з прыходам да ўлады вялікага князя Віценя (1293—1316) Новагародскае княства зноў умацоўваецца, пачынае новы віток змагання за далучэнне Жамойцкіх земляў. Віцень скіроўвае свой погляд на захад, на польскія землі. У 1293 годзе ён ваюе Сандамірскую зямлю, а ў 1315 годзе падпарадкоўвае Берасцейшчыну з гарадамі Берасце, Камянец, Кобрын, Драгічын, Мельнік.

У эпоху княжання Віценя не спыняецца супрацьстаянне Княства з крыжакамі. Асабліва непрымірэнчую барацьбу з імі ў гэты перыяд вядзе гарадзенскі стараста Давыд Гарадзенскі. Напэўна, у часы Віценя намецілася тэндэнцыя да канчатковага збліжэння Новагародскай дзяржавы з Полацкім княствам, што, бясспрэчна, дало новы штуршок іх узаемнаму развіццю, адыграла вырашальную ролю ў станаўленні Беларускага гаспадарства.

У XIV стагоддзі пры вялікім князі Гедзіміне (1316—1341) ішло далейшае пашырэнне дзяржавы на ўсход, ажно да Дняпра. У часе яго княжання ў склад Вялікага Княства ўваходзяць Меншчына, Лукомскае, Друцкае і Турава-Пінскае княствы. Сталіца Беларускага гаспадарства пераносіцца з Новагародка ў Вільню, у крывіцкую зямлю.

Сын Гедзіміна, вялікі князь Альгерд (1341—1377), яшчэ больш прыкметна павялічыў тэрыторыю Княства. Ажаніўшыся з віцебскай князёўнай Марыяй, дачкой Яраслава Васільевіча, Альгерд такім шляхам, праз дынастычны шлюб, далучыў да сваёй дзяржавы Віцебскія землі. Ён падпарадкаваў Кіеўшчыну, Валынь, Падолле, Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў, Бранск. Князь зрабіў некалькі паходаў на Маскву ў 1368—1372 гадах і абвясціў свае прэтэнзіі на Ноўгарад Вялікі, Пскоў і Цвярское княства. Альгерд дамогся ад Канстанцінопаля заснавання ў Новагародку незалежнай праваслаўнай мітраполіі, што па тым часе было сімвалам моцы дзяржавы.

У 1386 годзе вялікі князь Ягайла (1377—1392) здзейсніў персанальную вунію Княства з Каронаю. Праз дынастычны шлюб, жаніцьбу з Ядвігай, ён меў намер далучыць да сваіх уладанняў яшчэ й Польскае Каралеўства. Праўда, пазней, у XV—XVI стагоддзях, на падставе сфабрыкаваных палякамі дакументаў, што выстаўляліся імі як арыгіналы, у гістарычнай навуцы (спачатку, вядома, польскай) запанавала цалкам процілеглае меркаванне — пра нібыта добраахвотнае далучэнне Беларускага гаспадарства да Польскага Каралеўства. Гэтая думка, аднак, цалкам не адпавядае сапраўднасці, пра што сведчаць шматлікія факты.

Найперш, у Прывілеі Ягайлы, выдадзеным у красавіку 1387 года Скіргайлу — намесніку вялікага князя, адназначна гаворыцца пра поўную дзяржаўна-палітычную незалежнасць Беларускага гаспадарства ад каго б тое ні было.

Па-другое, пра аніякую інкарпарацыю Княства ў склад Польшчы літаральна нічога не сказана ні ў Востраўскім пагадненні 1392 года Княства з Каралеўствам, ні ў пагадненні 1401 года, вядомым як Віленска-Радомская вунія. А яны ж адбыліся неўзабаве пасля 1386 года.

Па-трэцяе, на несумненную фальшывасць, падробленасць акта Крэўскага пагаднення, да якога апелявалі палякі, шматкроць указвалі паслы Беларускага гаспадарства ў часе Люблінскага Сойму 1569 года.

Дый як, урэшце, можна прымаць усур'ёз дакумент, што й цяпер часам прадстаўляецца як "гістарычны аргумент", калі ён не мае элементарных для пацверджання праўдзівасці рэчаў (неабходных рэквізітаў) — подпісу і пячаткі!

Асаблівай эканамічнай, вайсковай і як вынік дзяржаўна-палітычнай моцы Вялікае Княства Літоўскае дасягнула ў перыяд княжання Вітаўта (1392—1430), які ў 1395 годзе падначаліў Смаленскае княства, а ў 1422 годзе канчаткова падпарадкаваў Жамойць. Пад ягоным пратэктаратам апынуліся гэтаксама Вялікі Ноўгарад, Пскоў, Разань. Чэшскае каралеўства, ведаючы моц Вітаўтавай дзяржавы, запрасіла яго да сябе на гаспадаранне. Ён прыняў прапанову чэхаў і паслаў да іх намеснікам свайго пляменніка Жыгімонта Карыбутовіча. На патрабаванне Вітаўта, які наважыўся стаць каранаваным манархам, памазанікам Божым на зямлі, Ватыкан без пярэчанняў асвяціў карону. Гаспадар Вялікага Княства пажадаў надзець яе ў прысутнасці пазваных у Луцк дзеля гэтае нагоды імператара Святой Рымскай імперыі Жыгімонта, польскага караля Ягайлы, маскоўскага князя Васіля, высокапастаўленых асобаў з Прусіі, Рыма і Канстанцінопаля. Ніхто не асмельваўся адкрыта запярэчыць Вітаўту. Беларускае гаспадарства было прызнанае тады наймагутнейшым у Еўропе, а ягоныя абшары сягалі Балтыйскага і Чорнага мораў, Берасця і Мажайска.

У XV стагоддзі ў Вялікім Княстве адбылася істотная карэкціроўка палітычнага рэжыму. Вялікі князь Казімір Ягайлавіч (1440 — 1492), выдаўшы агульнагаспадарскі Звод Законаў — Судзебнік 1468 года, замяніў такім чынам Вітаўтаву манархію — аднаасобную, неабмежаваную ўладу гаспадара, на "бязлітаснасць" пісаных законаў.

У XVI стагоддзі абшары Беларускага гаспадарства павялічыліся пераважна шляхам мірнага пераходу пад ягоную юрысдыкцыю суседніх дзяржаваў, паводле іх уласнага пажадання, яскравы прыклад чаго — добраахвотнае далучэнне да Княства ў 1559-1560 гадах Інфлянтаў, якія шукалі паратунку ад Маскоўшчыны.

Найважнейшая падзея XVI стагоддзя — Люблінская вунія 1569 года. Што ж гэта такое і якія былі яе вынікі?

Люблінская вунія — гэта часовы вайскова-палітычны хаўрус, падпісаны паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам улетку 1569 года на Сойме ў Любліне. Урад Беларусі, якая ў гэты час вяла цяжкую Полацка-Інфлянцкую вайну з Масковіяй, мусіў падпісаць ганебнае пагадненне з Польшчаю ўзамен на вайсковую дапамогу.

Заключны Акт Люблінскага Сойму, у аснову якога быў пакладзены праект польскіх паслоў, а не той, што прапаноўвалі дэлегаты Вялікага Княства, акурат і прадугледжваў, як таго здавён дамагаліся палякі, зліццё дзвюх дзяржаваў і двух народаў у адзінае цэлае, забарону правядзення ў Княстве асобных Соймаў (Галоўных З'ездаў), ліквідацыю адметнага вялікакняскага Статута, адмену звычайнага парадку абрання вялікага князя, дазвол палякам свабодна набываць землі і даставаць усякія пасады на абшарах Беларускага гаспадарства. Адным словам, "Акт аб вуніі", у прапанаванай палякамі рэдакцыі, рыхтаваў глебу для інкарпарацыі, г.зн. поўнага ўваходжання Вялікага Княства ў склад Польскага Каралеўства.

Утварэнне на Люблінскім Сойме статутавай камісіі з мэтаю прывядзення вялікакняскага заканадаўства і ўсіх судовых ды адміністрацыйных структураў у адпаведнасць з польскімі, а гэтаксама фармаванне агульнага ўраду, сталася першымі крокамі з боку палякаў на шляху зліквідацыі незалежнага Беларускага гаспадарства.

Але мары палякаў тады засталіся нязздзейсненымі. Дзякуючы неймаверным высілкам і цвёрдай палітычнай лініі найвышэйшых урадоўцаў Княства, найперш Астафея Валовіча (каля 1520—1587) і Лева Сапегі (1557-1632), аніякага паяднання ў сапраўднасці не адбылося.

Да таго ж у 1576 годзе новы вялікі князь Сцяпан Батура сваімі першымі Прывілеямі ад 8 ліпеня 1576 года цалкам адмяніў усе рашэнні Люблінскага Сойму 1569 года, што прыніжалі годнасць Беларускага гаспадарства. У Прывілеі 1576 года падкрэслівалася поўная незалежнасць Вялікага Княства ад Польскай Кароны, здымаліся ўсялякія абмежаванні з дзейнасці вялікакняскага Статута.

Больш таго, на загад С. Батуры была ўтворана спецыяльная дзяржаўная камісія, якая неўзабаве ўдакладніла межы між Каронаю і Княствам. Акрамя таго, праз два гады Вальны Сойм 1578 года зацвердзіў падрыхтаваныя ўрадоўцамі Княства гэтак званыя "статутавыя паправы", якія ўзнаўлялі надзвычай важныя нормы дзяржаўнага і судова-працэсуальнага права, адмененыя ў 1569 годзе Люблінскім Соймам. Яны безагаворачна вярталіся ў Статут Вялікага Княства.

У Новай рэдакцыі Статута 1588 года ўжо цалкам гарантавалася абсалютная эканамічная, дзяржаўна-палітычная і культурная незалежнасць Вялікага Княства ад суседніх гаспадарстваў. Згодна з артыкуламі Статута 1588 года ўсім іншаземцам забаранялася набываць (купляць або атрымліваць як узнагароду ад вялікага князя) зямельныя надзелы, замкі ды маёнткі, а гэтаксама — свецкія і царкоўныя пасады на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства.

Нарэшце, статус дзяржаўнай мовы ў Вялікім Княстве, паводле Статута 1588 года, замацоўваўся менавіта за беларускай мовай, а не за польскай ці якой-небудзь іншай.

Як бачна, Вялікае Княства Літоўскае не было зліквідавана ў 1569 годзе і не перастала існаваць як самастойная дзяржава, хоць таго, вядома, надзвычай хацелася палякам.

Болей за тое, у перыяд княжання С. Батуры (1576—1586 гады) Вялікае Княства перажыло перыяд новага дзяржаўнага, эканамічнага і культурнага ўздыму, красамоўнае пацверджанне чаго — пераможнае завяршэнне ў 1582 годзе працяглай, 20-гадовай Полацка-Інфлянцкай вайны з Масковіяй і вяртанне нарэшце ўсходніх беларускіх земляў.

Беларускае гаспадарства, такім чынам, не знікла ў 1569 годзе і праіснавала як незалежная дзяржава да 3 мая 1791 года. Тым, хто сумняваецца ў слушнасці гэтае высновы, задам рытарычнае пытанне: навошта спатрэбілася б палякам зліквідоўваць Вялікае Княства Літоўскае ў 1791 годзе, калі б яно перастала існаваць ужо з 1569 года?!

А куды ж падзелася тая дзяржава, пра якую так шмат напісана і якая носіць назву "Рэч Паспалітая"?! — усклікне чытач.

Паспрабуем пашукаць яе. Напачатку, праўда, патлумачым, што значыць словазлучэнне "рэч паспалітая".

Тэрмін "рэч паспалітая" з'яўляецца літаральным перакладам з лаціны res publica і азначае наогул усялякую "агульную справу", "дзяржаву" ці "гаспадарства".

Нашыя продкі, як сведчаць гістарычныя крыніцы, карысталіся тэрмінам "рэч паспалітая" — у дакументах на беларускай мове і тэрмінам "res publica" — у дакументах на лаціне на працягу амаль усяго існавання Вялікага Княства Літоўскага (ад XIV да канца XVIII стагоддзя), прычым задоўга да 1569 года, натуральна ўжываючы яго як сінонім свайго гаспадарства, сваёй дзяржавы. Спашлёмся на найаўтарытэтнейшую крыніцу першай паловы XVI стагоддзя — Статут 1529 года, дзе словазлучэнне "рэч паспалітая" скрозь ужываецца ў значэнні "гаспадарства", "дзяржава", "краіна", напрыклад, у 10 артыкуле 1 раздзела, 6 артыкуле 3 раздзела, 2 артыкуле 4 раздзела. Тое ж паўтараецца і ў шматлікіх артыкулах Статутаў 1566 і 1588 гадоў.

Трэба адзначыць, што палякі гэтаксама здаўна карысталіся тэрмінам "рэч паспалітая" ("rzecz pospolita") і да Люблінскага Сойму ўжывалі яго выключна як сінонім свайго гаспадарства, сваёй дзяржавы — Польскага Каралеўства.

Аднак у 1569 годзе, у цяжкі для нашай Бацькаўшчыны момант, яны абвясцілі, што Вялікае Княства Літоўскае зліквідоўваецца як самастойная дзяржава, уключаецца ў склад Польшчы і, такім чынам, утвараецца адна "рэч паспалітая" (дзяржава) — Польскае Каралеўства, што й было зафіксавана імі ў Заключным Акце Люблінскага Сойму 1569 года. З таго моманту яны заўсёды пачалі гэтак гаварыць і пісаць, прызнаючы толькі адну "рэч паспалітую" — Польскую дзяржаву.

**Іван САВЕРЧАНКА.**

**(Заканчэнне будзе.)**

# ПРАЗ ПАКУТЫ, ЦЯРПЕННЕ І НЯЗГАСНУЮ НАДЗЕЮ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

2 СТУДЗЕНЯ 1993 ГОДА стогадовы юбілей Канстанцыі Буйло. Гэта дата, мусіць, здзівіць тых, хто зазірне ў пісьменніцкія даведнікі і энцыклапедыі, дзе напісана, што паэтэса нарадзілася 30 снежня 1898 года. Так сталася, што толькі пасля смерці Канстанцыі Антонаўны ў 1986 годзе можна было ліквідаваць недакладнасці, звязаныя з годам і месцам яе нараджэння.

Усе Буйлы, пачынаючы з бацькі, былі людзьмі гордымі, духоўна незалежнымі і ад гэтага часта мелі залішне клопату.

Не толькі служба панскага аб'ездчыка (Антон Буйло змяніў многа пасад) прымушала сям'ю пераязджаць з месца на месца. Ён не спускаў сваім гаспадарам знявагі і несправядлівасці, не лез у кішэню па слова, бунтаваў сам і падбухторваў сялян. Антон Аляксандравіч працаваў старшым конюхам у скакавых стайнях князя Гагарына, аб'ездчыкам у графа Тышкевіча, у Адравонжы даглядаў разарый, працаваў учотчыкам на цагельні, быў добрым паляўнічым, рабіў чучалы жывёл і птушак, майстраваў музычныя інструменты, з якіх утварыўся і сямейны аркестр, лячыў дзяцей, займаўся пчалярствам... Вільня, Маладзечна, Сугвазды, Барсуковіна, Радзяйкова, Вішнева (Адравонж), Ірэнёва, Зазер'е, Скрыдлёва, Дыманова — мясціны, па якіх пралёг гаротны шлях Антона Буйло і яго сям'і. Гэта было жахлівае, цыганскае, паўжабрацкае жыццё. На двух вазах умяшчаўся няхітры скарб, на дарожных калдобінах білася і ламалася апошняе. "Новы дом, а ўсё бяда старая", — пісала пра сваё маленства ў аўтабіяграфічнай паэме "Па траскіх гацях" Канстанцыя Буйло.

Адной з галоўных прычын горкай сялянскай долі Антон Буйло лічыў цемнату і непісьменнасць народа. Сам ён умеў чытаць і ўсіх дзяцей прыахвоціў да чытання. Костачка, як звалі Канстанцыю Антонаўну ў дзяцінстве, была жывая, энергічная і здольная дзяўчынка. Чытаць навучылася рана і, калі да бацькі прыязджалі леснікі, бойка чытала ім уголас газеты.

Менавіта кнігі далі паэтэсе веды і пісьменнасць, адкрылі вочы на шырокі свет, пад уплывам бацькі фарміраваліся адносіны да жыцця, разуменне сацыяльнай няроўнасці. Сама Канстанцыя Буйло не раз падкрэслівала, што пісьменніцай яе зрабіла газета "Наша ніва". Ёй былі блізкімі па мове, па духу вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі, якія друкаваліся на старонках газеты. Яны абудзілі жаданне паспрабаваць свае сілы, стаць упоравень з імі. У 1909 годзе Канстанцыя Буйло паслала ў "Нашу ніву" свой просценькі верш "Хвоя" і адчула здзіўленне і шчасце, калі ён быў надрукаваны. Так пачалося супрацоўніцтва з газетай, якое працягвалася да яе закрыцця.

Яркі прыродны талент Канстанцыі Буйло расквітнеў пад уплывам і ўвагай Янкі Купалы. Ён адразу прыкмеціў новага аўтара, паставіўся да творчасці ўважліва і прыхільна і, мусіць, у знак гэтай прыхільнасці ў 1910 годзе на сваім узнёслым рамантычным вершы "Мая думка" пазначыў: "Ахвярую Канстанцыі Буйло".

Як вядома, скласці паэтычны зборнік К. Буйло прапанаваў Янка Купала, і сам жа ўзяўся сваю ідэю ажыццявіць. Ён пісаў ёй пісьмы, патрабуючы ўсё больш і больш вершаў, бо хацеў, каб "кніжка атрымалася найтаўсцейшай". А яна дасылала свае творы і з Горнага Скробава, і з вёскі Чаўшклі на Лідчыне, дзе настаўнічала: днём вучыла дзяцей, а вечарам праводзіла гутаркі з сялянамі, чытала ім газеты, давала парады. Многа лістоў ішло з Вішнева, дзе жылі бацькі з малодшымі дзецьмі, і Канстанцыя Антонаўна да іх часта ездзіла.

Янка Купала працаваў над "Курганнай кветкай" з задавальненнем, надзвычай беражліва абыходзіўся з аўтарскім тэкстам, захоўваючы індывідуальнасць паэта. Канстанцыя Антонаўна ва ўсім далейшым жыцці з удзячнасцю і засмучэннем успамінала свайго першага рэдактара, які лічыўся з ёй як з аўтарам і не імкнуўся перарабіць усё на свой капыл. Што менавіта так Янка Купала ставіўся да твораў маладой паэтэсы, сведчыць яго пісьмо да Л. Клейнбарта ад 11/1-29 г., у якім ён пісаў: "Во время пребывания в "Н.Н." моей первой обязанностью было исправлять иногда неисправимые присылаемые в редакцию стихи. А их присылали много. И, конечно, я их исправлял. Не было чего исправлять только у Якуба Коласа; Богдановича, Бедулю, Горуна, Тетку, Кон. Буйло, Гурло, Журбу — немного, у кого в смысле ритмики, у кого — замена небелорусского слова или фразы белорусской". Водгукі, рэцэнзіі на "Курганную кветку" і наогул на творы К. Буйло таго часу былі станоўчымі. "Наша ніва" змясціла рэцэнзію Д. Віндоўскага на першы зборнік маладой паэтэсы. У ёй аўтар адзначае, што калі ён чытаў маленькую кніжачку, то глыбокі жаль агарнуў яго сэрца, бо перад яго вачамі была змучаная беларуская душа, поўная надзеі і жадання жыць, успомніліся яму і народныя песні, у якіх сярод шалёнай радасці балюча раняць сэрца сумныя ноты жалю ды зняверання. "З той жа крынічкі шчырых і гарачых слёз выплываюць і першыя акорды паэзіі Канстанцыі Буйло", — піша Д. Віндоўскі. Ён называе аўтарку свядомай грамадзянкай абнядоленай Беларусі, якая заклікае народ "да працы стаць з адвагай і надзеяй", каб у сэрцах людзей засяваць добрае насенне.

Я не ведаю, хто такі Д. Віндоўскі, магчыма, гэта нечый псеўданім, пакуль што не маю адказу, але чалавек гэты вельмі глыбока зазірнуў у душу паэтэсы, зразумеў сутнасць яе натуры, нібы прадказаў яе будучыню. Адарваная жыццёвымі віхурамі ад радзімы, яна заставалася дачкой свайго народа заўсёды. З асаблівай сілай гэта роднасць праяўлялася ў крытычныя моманты, у ліхія гадзіны. Нясцерпны сум па родных прасторах, беларускаму небу, нашых барах і рэчках яна адчувала і ў старасці.

ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА застала К. Буйло ў Полацку, куды яна прыехала па парадзе Цёткі загадваць кнігарняй. У архіве Літоўскай акадэміі навук захоўваецца паштовая картка, якая засведчвае, што сувязь К. Буйло з "Нашай нівай" не перарывалася, дзе б яна ні працавала. Яна цікавілася справамі тых, хто там дзейнічаў, лічыла сябе неаддзельнай ад іх, хацела быць разам з імі.

У Вільню, у "Нашу ніву", на Віленскую N 29, картка адрасавана "ўсім"... "Паважаныя і дарагія Дзядзькі! Пішу тры словы пісулькай. Ад некалькі днёў кнігарня мая адчынена — рух ёсць крыху. Самапачуццё добрае. Што чутно? Пішыце, хто можа і хоча — зрабіце мне прыемнасць. Усім, ад першага да апошняга, пасылаю шмат сардэчнасцей. Як ідзе з тэатрам? Ці наладзіцца штокольвек? (...) Карту дз. Бядулі ды дз. Ластоўскага атрымала — за шчыры паклон дзякую, але за няверу ў мае словы "лаіці" трэба. Аставайцеся здаровенькі — няхай Вас усіх гадуе Бог, а ў лямпаццыпамяці аба мне — няхай не забракне алівы.

Пасылаю вам паклоны. Ваша К. Буйло".

У Полацку Канстанцыя Антонаўна сустрэлася з Віталем Адольфавічам Калечыцам, за якога ў 1916 годзе выйшла замуж і паехала ў Расію. З 1923 года і да самай смерці яна жыла ў Маскве, у доме N 11 па Ціхвінскаму завулку.

А ў Беларусі, ужо асобна ад паэтэсы, жылі яе вершы, многія з іх сталі песнямі і гучалі над роднай зямлёй. Мусіць гэта і ёсць найвялікшая адзнака і прызнанне паэта народам.

У ілюстраваным часопісе "Беларускае жыццё" за 1920 год Антон Навіна (Антон Луцкевіч) у рубрыцы "Нашы песняры" пісаў пра "Курганную кветку" і пра яе аўтара, што творчасць Канстанцыі Буйло можна было б назваць "песнямі кахання. Але гэтым не абмяжоўваюцца тэмы яе вершаў, бо пры яе інтэлектуальным развіцці жыццё вабіць яе ўсімі сваімі праявамі". Заканчвалася даведка словамі пра тое, што цяпер Буйло знаходзіцца дзесьці ў Савецкай Расіі і ўжо некалькі гадоў яны не маюць аб ёй ніякіх звестак.

Сям'і Буйло была ўласцівая кланавасць у лепшым разуменні гэтага слова. Так вялося заўсёды, што кожны з іх імкнуўся дапамагчы другому, старэйшыя апякалі малодшых. У 20-я гады старэйшай з дзяцей была Канстанцыя і, апынуўшыся ў Маскве, паступова перацягнула да сябе сястру Іну і брата Вітольда. Пад Масквой пахаваны маці і бацька паэтэсы.

Асабістае жыццё Канстанцыі Антонаўны складвалася ў гэты час вельмі шчасліва, у яе быў любімы муж, яна гадавала сына, але пісаць амаль перастала. Яна не чула роднай мовы, яе творчасць не жывіла родная глеба, сувязь з Беларуссю падтрымлівалася толькі праз Янку Купалу і найдаражэйшую сяброўку Уладзіславу Францаўну, жонку паэта, якая ўсё жыццё была ёй і маці, і сястрой, і сяброўкай.

Хутка абставіны вярнулі Канстанцыю Буйло на грэшную зямлю. Яна сама, сястра Іна (працавала ў Інстытуце кармоў на станцыі Лугавая пад Масквой), брат Вітольд (быў начальнікам міліцыі Курскага вакзала) і нават маці Настасся Францаўна адчувалі сябе нібы пракажонымі з-за таго, што нарадзіліся за мяжой, бо іх родныя мясціны да 1939 года знаходзіліся пад Польшчай. Не раз даводзілася даваць тлумачэнні ў адпаведных органах і даказваць, што яны беларусы, а не палякі.

Невыносна цяжкім, бессэнсоўным зрабілася для Канстанцыі Антонаўны жыццё, калі ў 1933 годзе арыштавалі яе мужа Віталя Калечыца і яна стала жонкай "ворага народа"! Пра гады чакання і надзеі, адчаю і душэўных пакут паэтэса ніколі не магла гаварыць спакойна. Некалькі вершаў 1937—1938 гадоў, якія захаваліся сярод старых рукапісаў, перадаюць унутраны стан амаль зломленага жыццёвымі віхурамі чалавека. У той час яна пісала, але многае знішчала, бо сярод напісанага былі вершы "небяспечныя". Канстанцыя Буйло, як і яе муж Віталь Калечыц, з якім яна сустракалася пасля яго арышту, ніколі не абвінавачвалі ў тым, што з імі адбылося, савецкую ўладу. Надта бязрадасным і галодным было дарэвалюцыйнае жыццё, непарушнай была вера ў тое, што яны жылі ў самай шчаслівай краіне. Але Канстанцыя Антонаўна пасапраўднаму ненавідзела Сталіна і прысвяціла яму і яго страшным справам многа вершаў. Абнародаваць іх не рашылася нават пасля яго смерці, бо не верыла, што такія вершы могуць быць апублікаваны, што ёй дазволяць сказаць усё, што яна лічыла вартым пакінуць у народнай памяці. У паэтэсы ў шафе захоўвалася папка з надпісам "пакалечаныя вершы". Я нядаўна праглядала іх. З вершаў выкінуты строфы, у якіх паэтэса ўспамінала Калыму, бязвінныя чалавечыя ахвяры і заклікала помніць і тых, хто загінуў, і іх катаў.

Толькі нядаўна сказана праўдзівае слова пра ролю і значэнне "Нашай нівы" ў гісторыі беларускага адраджэння, толькі нядаўна сталі мы ганарыцца гэтай выдатнай старонкай нашай гісторыі. Канстанцыя Буйло ды ящчэ Зоська Верас дажылі да часу, калі маглі адкрыта сказаць: "Мы — дзве нашаніўкі".

У ЧАС ВАЙНЫ паэтэса зноў апынулася сярод беларускіх пісьменнікаў, якіх вайна закінула ў Маскву. Яна зноў была ў курсе беларускіх спраў, чула родную мову, адчувала сяброўскую падтрымку. Гэта было вялікім шчасцем для адзінокай, надоўга адарванай ад натуральнага творчага асяродку паэтэсы. Яна сустракалася з Кузьмой Чорным, Піменам Панчанкам, Максімам Лужаніным, Міхасём Лыньковым, Пятром Глебкам. У 1944 годзе Канстанцыю Буйло прынялі ў Саюз пісьменнікаў.

Пра пасляваенны час К. Буйло магла сказаць, як некалі пра нашаніўскі, што яна многа пісала і шырока друкавалася ў розных беларускіх выданнях. У 1950 годзе выйшаў першы пасля "Курганнай кветкі" зборнік "Світанне". Яго рэдактарам быў Пятро Глебка, і працавалася з ім, па словах паэтэсы, таксама лёгка і радасна, як калісьці з Янкам Купалам.

Аднак... Пра артыкул "У палоне скажоных уяўленняў і архаічных вобразаў", які з'явіўся ў рэспубліканскай газеце "Звязда" ў 1951 годзе, Канстанцыя Антонаўна і на схіле дзён не магла ўспамінаць без жаху. Ёй прыпомнілі ўсё: і "сумніцельнае" паходжанне, і "нацыяналістычнае" мінулае, і прыналежнасць да сям'і "ворага народа". Абвінавачвалі ж сапраўды ў смяротных па тым часе грахах, пасля абнародавання якіх, каб не наступіла "адліга", наўрад ці здолела б яна зноў стаць на ногі. Яе паэзія называлася безыдэйнай і апалітычнай, паэтэса быццам бы перастала бачыць "багатую і мнагастайную савецкую рэчаіснасць, замкнулася ў шкарлупу сваёй святліцы". Беларусь, па словах аўтара артыкула Г. Шчарбатава, паэтэса малявала "адзінокай, па-за сувяззю з вялікім рускім народам і другімі брацкімі народамі Савецкага Саюза". К. Буйло "не разумела", што "Савецкая Беларусь дасягнула свайго сапраўднага эканамічнага і культурнага росквіту толькі дзякуючы сталінскай дружбе народаў, якая з'яўляецца вялікай рухаючай сілай савецкага грамадства". Як і многія іншыя, быў названы нацыяналістычным і шкодным верш, напісаны паэтэсай у Маскве ў 1946 годзе:

**Зямля мая далёкая,**
**Зямля мая цудоўная,**
**Радзіма сінявокая,**
**Якая ж табе роўная!**
**Мо ёсць і прыгажэйшая, —**
**Каму што ў свеце глянецца, —**
**Мая ж — найдаражэйшаю**
**Да смерці мне астанецца.**

Ганілася самае лепшае, самае патаемнае, самае светлае. За "поўную безадказнасць", якую "праявілі пры выпуску зборніка нядобраякасных твораў К. Буйло", дасталася і Дзяржаўнаму выдавецтву БССР, і рэдактару зборніка Пятру Глебку. Памылковым быў названы і ўступны крытычны артыкул С. Майхровіча, дзе ён упершыню дастаткова падрабязна расказаў пра жыццё і творчасць, дарэвалюцыйную і сучасную, старэйшай нашай паэткі. Такімі ж памылковымі называліся дзеянні часопіса "Беларусь" і газеты "Літаратура і мастацтва", якія далі станоўчыя рэцэнзіі на кнігу "Світанне"...

Шлях на радзіму быў закрыты. І хоць мяняліся часы, недавер і прадузятасць да сваёй асобы і сваёй творчасці паэтэса адчувала заўсёды. Думаю, што доўга дзейнічала сіла інерцыі, а потым рэдка сустракала я людзей, якія ўсур'ёз былі знаёмыя з творчасцю паэтэсы. Многім здавалася, што яны ведаюць яе вершы, але веданне гэта было павярхоўным, творчасць яе ацэньвалася без уліку асаблівасцей натуры аўтара, яе прыналежнасці да зусім іншай творчай плыні. Канстанцыя Буйло стаяла ля вытокаў беларускай літаратуры, была першапраходцам, асабліва ў пачатку і станаўленні так званай жаночай паэзіі, падмурак якой яна закладвала разам з Цёткай. Пра гэта не варта забываць нашым сённяшнім шматлікім песнярам, якім дасталася значна лепш апрацаваная ніва, палітая слязьмі і потам папярэднікаў.

У 1981 годзе выйшла апошняе прыжыццёвае выданне Канстанцыі Буйло — доўгачаканы двухтомнік. Доўгачаканы таму, што перамовы з выдавецтвам і абяцанні апошняга наконт яго выдання вяліся з аўтаркай на працягу больш як 20 гадоў. У тым, што ён, нарэшце, трапіў да чытачоў, ёсць заслуга і "Голасу Радзімы".

Канстанцыя Буйло часта друкавалася ў нашай газеце, а ў 1978 годзе ў "Бібліятэчцы "Голасу Радзімы" выйшла кніжка "Люблю" пра жыццё і творчасць паэтэсы. Тады ж і пачалося наша змаганне за двухтомнік. На імя Максіма Танка быў адасланы ліст, у якім давялося выкарыстаць можа і не зусім "карэктныя" па сённяшніх мерках аргументы, каб дамагчыся станоўчага выніку. Мы пісалі, што за мяжой беларуская паваенная эміграцыя лічыць паэтэсу ў апале ў афіцыйных улад, называюць "вязніцай Крамля", сведчаць, што творчасць К. Буйло не знайшла належнай ацэнкі на радзіме, а таму БІНіМ у Нью-Йорку збіраецца выдаваць яе творы.

Такія палітычныя матывы на партыйнае кіраўніцтва, якое вырашала, каго выдаваць, а каго не, уздзейнічалі найбольш пераканаўча. Зробленае папярэджанне мела станоўчы вынік: было прынята, нарэшце, рашэнне аб выданні двухтомнага збору твораў Канстанцыі Буйло. Кніжкі разышліся імгненна і адразу ж былі выдадзены паўторным тыражом.

Сёлета, калі нічога не зменіцца і не здарыцца непрадбачанага, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйдзе новы зборнік твораў Канстанцыі Буйло, дзе, акрамя вершаў, будуць змешчаны пісьмы паэтэсы да розных людзей, з якімі яна сябравала, якія дапамагалі ёй у яе жыцці ўдалечыні ад Беларусі.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# ПРАГА ПРАМАЎЛЯЕ З ПОЛАЦКАМ

Весткі з Прагі і Браціславы даводзяць, што прастора Чэхаславаччыны палюбоўна падзяляецца на дзве самастойныя дзяржавы. Маё беларускае сэрца магло б успрыняць гэта з горыччу, калі б не жадала такога Валадарства, як Рэспубліка Беларусь. Што ж, гісторыя адпраўляе асобныя народы на тыя зыходныя пазіцыі, дзе яны змогуць учыніць у сваёй дзяжы адпаведна ўласнаму соладу рошчыну. Спадзяюся, што ўдала выпечанымі боханамі надзённага і духоўнага хлеба мы ўсе яшчэ шчодра падзелімся.

Ну а сёння пасылаю маёй улюбёнцы Чэхаславаччыне сваё лірычнае запаветнае развітанне. Бо гэта краіна была наканавана мне не для бляскотнага турыстычнага заезду і розгляду. Пад Прагаю, у мястэчку Міловіцэ — над Лабэм, у 1969 годзе пачалася мая лейтэнанцка-журналісцкая служба ў Цэнтральнай групе войскаў СА. Уладзімір Караткевіч наказваў перад ад'ездам: "Ты ж толькі не страляй там. Чэхі — нашы браты". І вось — першыя сустрэчы з незабыўным Міхалам Забэйдам, першыя пераклады вершаў чэшскіх паэтаў і — першы данос з Нымбурга аб маім непрыняцці вось такой гусенічнай інтэрнацыяналісцкай дапамогі братам. Да "пакаяння" крамлёўскіх камуністаў было яшчэ далёка, да ўшанавання памяці Забэйды і Геніюш — таксама, і я "загрымеў" як дысідэнт, як нацыяналіст — з партыі, з арміі і г.д. і да т.п.

Але ж якая ў мяне можа быць крыўда на тое, што горкія беды распачаліся пад Прагаю, у пару майго закахання сапраўды брацкімі мовай, народам, зямлёю... Тыя выпрабаванні яшчэ больш зраднілі мяне з людзьмі — сапраўднымі сябрамі Беларусі: Вацлавам Жыдліцкім, Мілаславам Зімам у Празе, Людмілай Краскоўскай, Эдуардам Гашынецам у Браціславе...

У Чэхаславаччыне, калі згадаць словы Ф. Скарыны, я быў "ускормлены суць па бозе" вясновым натхненнем жыцця, за што заўсёды для гэтай зямлі буду толькі вялікую ласку тварыць.

Хай шчасціць вам Новы год, любыя майму сэрцу Прага і Браціслава!

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня рады сябрыны**
**"Беларусь—Чэхаславаччына".**



**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

## СПАРЫШОВАЯ ЛАСКА

***

**Пазалацела Прага. Сын вясны,**
**гляджу: тут каралюе Адраджэнне.**
**На Радаўніцу кветак аглашэнне**
**скарыла наш сцюдзёнец прывазны.**

**Сталіца эмігрантаў, іх бяды...**
**Тут пантэон двух нашых прэзідэнтаў...** [1]
**О золатца! Ракрый кнігоўну ведаў:**
**без іх збяднелі буднія гады.**

**Ты паспрыяй, каб далучыць да нас**
**дух суайчынны, высілкі герояў.**
**Стаяў жа за Беларусь — гарою! —**
**крывіцкіх сэрцаў думны празапас.**

**Мы спаталяем сёння іх выраст,**
**Мы дзякуем пражанам за**
**іх шчодрасць...**
**Узрадуецца ўсё, што стыла ўчора,**
**што заўтра скончыць**
**несправядлівы пост.**

[1] Прэзідэнтаў БНР П. Крэчэўскага і В. Захаркі.

***

**Іскрынка божая, ратуй:**
**не дай ні мне, ні Слову згінуць, —**
**так лёгка божы свет пакінуць...**
**Іскрынка божая, рыхтуй**
**душы пакутнае цярпенне.**
**Надчалавечае ўзнясенне,**
**іскрынка божая, ўзгадуй.**

***

**Ноччу Прага прамаўляе з Полацкам:**
**старабыт с в а ё карэнне мае.**
**І калі гняздо паддаша ўспорыцца, —**
**мур-камель стадолу утрымае.**

**Так і чалавек сваёй карыснасцю**
**спраўджвае давераную меру:**
**марамі узважыць веру прыснасці,**
**сэрцам — ужо споўненую веру.**

***

**Чужым ніколі тут не жыў крывіч.**
**Такім — і я ў чаромхавым натхненні.**
**А нашыя дзяржавы — гэта звенні:**
**па іх — як ток — адзін іскрыцца кліч.**

***

**Ёсць рух і лучнасці закон.**
**Выгнанцаў скруху абнадзеіў**
**тут Прагі прыцягальны звон.**

**Перада мной сцяна вякоў.**
**Не выклікаю дух Скарыны,**
**другіх славутых землякоў.**

**Дух роднасці нясуць іскрыны —**
**не бляск з-пад танкаў ці падкоў.**
**Згадаю жнівень — халадзею.**

**Мне "Залесі" — пахучы стог —**
**прадзе вішнёвую кудзелю.**
**Згадаю крыўду — сам як стогн.**
**Згадаю праўду — маладзею.**

***

**Паэты пагасаюць разам з днём,**
**падатлівыя змрокаваму ветру.**
**І з цягам часу кожнаму паэту**
**выпальваюць таўро сляпым агнём.**

**Ён б'ецца, як лісціначка ў галлі.**
**Але яго наіў вышэйшай пробы.**
**Бо летуценні — гэта не хваробы:**
**ад іх збавенне толькі — у зямлі.**

**Як цяжка мітусяцца у радках,**
**якія пад навалай злой аслізлі,**
**маленечкія літаркі:**
**"п", "а", "н", "і", "з", "ь", "н", "і", "к",**
**пакуль не перальюцца ў выдых: "ах..."**

***

**Не чую. Прытуляюся. Шапоча**
**пражанка пра далёкую Хатынь.**
**І калі скронь пульсуе, завалочча, —**
**то каля сэрца лідзіцкая стынь.**

***

**У чарах чарачак**
**віна віна:**
**Я правініўся: так, была — адна! —**
**якую я запомніў.**
**Ды баюся,**
**што і з чарговаю не размінуўся.**

***

**Вунь шаша. Там час шугае,**
**не затрымлівае бег.**
**Я ж сяджу глухім шугаем,** [2]
**на хаценні маім снег.**
**Татры сінія — далёка,**
**а зялёныя — бліжэй...**
**Тут галёкай не галёкай —**
**рэха ліпне да вушэй**
**і не коціцца, не мкнецца**
**павярнуцца, рагатнуць:**
**— А мо сэрца ўжо не б'ецца!**
**— Можна ў рог цябе сагнуць!**
**З вуха ў вуха час шугае.**
**Быў шугаем — ім і ёсць!**
**І ля Татраў я шукаю**
**шлях з найменнем "маладосць".**
**Я знайду дарогу ў Татры,**
**крыкну: А пажыць тут варта!**
**Хто шугаем быў — ім будзь!**
**Пра сябе ў сабе забудзь.**

[2] Шугай — дзяцюк.

***

**Чачотка цягніка.**
**Лянотная рака.**
**Чаромхавая белая успышка...**
**Вунь крыжавы мой шлях.**
**І чашка на слупах —**
**як міжнароднай сувязі пупышка.**

*ЦАРКОЎНЫ ЗВОН, ПАВОДЛЕ ВЕРАВАННЯЎ, АСВЯЧАЕ НАВАКОЛЛЕ*

# ЗВАНАР

Падымаючыся па пявучай драўлянай лесвіцы, якая вінтом ішла ўверх на званіцу слонімскай Свята-Троіцкай царквы, я ледзьве паспяваў за Максімам Каляватавым. З-за нязручнасці, ды й агледзець хацелася ўсё ўважліва, тут шпарка не пойдзеш, хаця мой гід наверх ляцеў, нібы той голуб. Электрычныя лямпачкі няроўна асвятлялі мураваныя сцены, якім ужо каля трох стагоддзяў.

Ступіўшы на 55-ю прыступку, мы апынуліся на гарышчы, адтуль трапілі ў вялікую званіцу храма. Праз яе вокны адкрывалася панарама амаль усяго горада. Са столі купала глядзелі два чорныя вокі званоў, з якіх спаўзалі доўгія вужакі-вяроўкі. Менавіта з дапамогай іх званы ажываюць, і меладычнае рэха разносіцца па наваколлі.

Гаворыць настаяцель Свята-Троіцкай царквы, протаіерэй Сергій:

— Званы не адразу з'явіліся ў хрысціянскім богаслужэнні. На працягу першых трох стагоддзяў існавання хрысціянскай царквы іх не было. Пачынаючы з IV стагоддзя нашай хрысціянскай эры, у некаторых манастырах Егіпта і Палесціны для склікання манахаў на супольную малітву пачалі ўжывацца розныя прылады з вельмі выразнымі і простымі назвамі: біла, клепала, дрэва і іншыя. Пазней гэтыя прылады ўдасканальваліся, так і з'явіліся званы.

Першыя званы, як мяркуюць царкоўныя гісторыкі, прагучалі недзе на тэрыторыі Італіі, бо нават у царкоўнаславянскіх богаслужэбных кнігах звон (колокол) называецца кампанам. Паходжанне гэтага слова звязана з рымскай правінцыяй Кампанія, дзе здабывалася лепшая медзь для ліцця званоў.

Афіцыйнае ўжыванне званоў у праваслаўнай царкве пачалося ў XII стагоддзі. Яны доўга не мелі пастаяннага месца ў храме: іх змяшчалі і над уваходам у царкву, і на царкоўнай браме. Цяпер званы бываюць або ў вежы царквы, або ў асобным збудаванні — на званіцы.

Тут жа на званіцы і адбылася гутарка з Максімам Каляватавым — званаром і дзячком царквы. Максіму — пятнаццаць гадоў, ён вучань дзевятага класа сярэдняй школы N 10 горада Слоніма.

— Максім, як атрымалася, што ты ў такім узросце стаў "штатным работнікам" царквы?

— Выпадкова. Два гады назад пры Свята-Троіцкай царкве была створана нядзельная школа, куды запрасілі дзяцей. Прыйшоў і я. Мне тут вельмі спадабалася. Быў уражаны малебнам, які праходзіў у храме. Потым стаў пастаянна наведваць царкву. Быў залічаны дзячком.

— Ты тут адзін на такой "пасадзе"?

— Не, нас, дзячкоў, чацвёра: яшчэ мой аднакласнік Саша і два хлопчыкі-блізняты.

— Вы за гэта атрымліваеце грошы?

Пасля нядоўгага вагання Максім прамовіў:

— Так, але чыста сімвалічна.

— Максім, мне чамусьці здаецца, што далейшы свой шлях ты ўжо абраў канчаткова?

— Так. Пасля заканчэння школы я вырашыў паступіць у Мінскую духоўную семінарыю. Хаця раней марыў быць вайскоўцам — афіцэрам.

— Як ставяцца да твайго новага занятку і духоўнага светапогляду сябры, аднакласнікі?

— Спачатку падсмейваліся, жартавалі, а цяпер прывыклі.

— Званаром ты не адразу стаў. Напэўна, у цябе ёсць настаўнік?

— Вядома. Упершыню я падняўся на званіцу на Каляды з Пятром Жуком, які ў той час быў званаром. Цяпер ён вучыцца ў семінарыі. Ад яго я атрымаў азы звонавага майстэрства.

Першы час затыкаў вушы ватаю. Рэзананс у вежы ў час звону вялікі. А ўвогуле звычайна звонім удвух з Пятром, бо "раскачаць" званы ў мяне сілы не хапае.

— І што ты ўжо ўмееш?

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**



**У Беларускім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа — прэм'ера. Віцябчанам паказана камедыя Аляксея Талстога "Касатка". Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Юрый Лізінгевіч, сцэнаграфія — Андрэя Проніна, музычнае афармленне — Аляксандра Суворава.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. У ролі Ільі — Генадзь ШКУРАТАУ, у ролі Пашы ("Касатка") — Тамара КАБЯК.**

**Фота А. ХІТРОВА.**

ЦАРКОЎНЫ ЗВОН, ПАВОДЛЕ ВЕРАВАННЯЎ, АСВЯЧАЕ НАВАКОЛЛЕ

# ЗВАНАР

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

— Пакрысе ўсё. У адпаведнасці з характарам богаслужэння бываюць розныя віды звону. Благавест — гэта калі рытмічна б'юць у адзін звон. Паслядоўны ўдар па чарзе ў розныя званы называецца перазвонам, або пераборам. А калі б'юць у розныя званы адначасова ў тры прыёмы з паўзамі, то атрымліваецца трызвон. Благавест гучыць перад ранішняй і вячэрняй малітвамі, трызвон — перад літургіяй. Перад урачыстымі богаслужэннямі пасля благавесту званар выбірае трызвон, а часам благавест пераходзіць у перазвон, а за ім гучыць трызвон.

**ПРОТАІЕРЭЙ СЕРГІЙ:**

— Якое прызначэнне званоў? Каб вернікі, пачуўшы іх, заахвочваліся да праслаўлення імя Божага і малітвы царкоўнай. Звон не толькі склікае людзей на малітву, але і сам па сабе праслаўляе Бога. У савецкі час царкоўны звон быў забаронены.

Акрамя таго, царкоўны звон, паводле веравання, асвячае наваколле, выганяе з яго шкодныя сілы. А навуковыя даследаванні, праведзеныя вучонымі-фізікамі, пацвярджаюць, што звон знішчае ў паветры шкодныя для арганізма чалавека мікробы.

Звычайна па традыцыі ў царкве знаходзяцца пяць званоў рознай велічыні, і з цягам часу ў званіцы Свята-Троіцкай царквы дабавяцца яшчэ тры званы меншых памераў. Магчыма тады на праваслаўныя святы гарадское наваколле напоўніцца меладычным, разнастайным пералівам гукаў. І можа ён будзе не зусім падобны на той звон, які можна пачуць у манастыры Кіева-Пячорскай лаўры, дзе і цяпер захавалася звонавае майстэрства. Тым не менш, спадзяёмся, што і на Слонімшчыне з'явіцца свой сапраўдны званар.



Адзначым, што званы ў былы час устанаўлівалі не толькі ў цэрквах. Яны знаходзіліся на гарадскіх ратушах, уязных брамах. Да савецкага часу званы адыгрывалі ў жыцці людзей вялікую грамадска-бытавую ролю: склікалі на сходы, апавяшчалі аб нечаканых здарэннях. А знішчэ звана з гарадской ратушы лічылася выключнай з'явай і сведчыла аб пакаранні горада, пазбаўленні яго правоў на самакіраванне.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК.**

**НА ЗДЫМКУ: званар Свята-Троіцкай царквы Максім КАЛЯВАТАЎ.**

Фота аўтара.

СПОРТ

## ДАМОЎ — З ПРЫЗАМ

Зборная Беларусі па баскетболу выйграла ў Сан-Сальвадоры турнір "Кубак свету". У рашаючым паядынку наша каманда перамагла мексіканцаў з лікам 120:83.

## ІЗНОЎ ШЧЭРБА

**У традыцыйным навагоднім апытанні журналістаў дзесятку лепшых спартсменаў 1992 года Рэспублікі Беларусь узначаліў герой барселонскай Алімпіяды гімнаст з Мінска Віталь Шчэрба. Ён намнога апярэдзіў 32 кандыдатаў на гэтае ганаровае званне па кольскасці галасоў.**

**Яшчэ некалькі беларускіх спартсменаў увайшлі ў лік лепшых у апытанні журналістаў і спартыўных спецыялістаў свету. Так, сярод кідальнікаў молата на першае месца пастаўлены Ігар Астапковіч з Гродна, а мінчанка Наталля Шыкаленка ўзначаліла спіс сярод кідальнікаў кап'я.**

## ІНШАГА І НЕ ЧАКАЛІ

**Завяршыўся адкрыты чэмпіянат Расіі па хакею. Ужо з першых тураў гродзенскі "Нёман" і наваполацкі "Хімік" захапілі лідэрства. На фінішы беларускія спартсмены не далі нікому наблізіцца да сябе. У выніку перамог "Нёман", а "Хімік" заняў другое месца.**

**Пасля гэтага хакеісты з Наваполацка паехалі ў Польшчу, дзе правялі дзве сустрэчы. У першай "Хімік" перамог зборную студэнтаў гэтай краіны — 4:2, пасля выйграў і ў "Гарняка" (Катовіцэ) — 5:1.**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**Ганна Ісакаўна ХАТКЕВІЧ** шукае родную сястру **Кацярыну Ісакаўну ЦІМАШЭНКА** і яе сям'ю: мужа **Івана ЦІМАШЭНКУ**, дзяцей **Уладзіміра, Васіля** і **Валянціну ЦІМАШЭНКАЎ**. Сям'я Кацярыны Ісакаўны воляю лёсу апынулася спачатку ў Венесуэле, а потым выехала ў Паўднёвую Карэю.

Усіх, хто ведае што-небудзь пра сям'ю **Кацярыны ЦІМАШЭНКА**, просім паведаміць у рэдакцыю ці на адрас:

**Беларусь, г. Полацк,**
**пр. К. Маркса, д. 17/6, кв. 32.**
**ХАТКЕВІЧ Ганне Ісакаўне.**

МАЙСТРЫ



**З плеценымі кашолкамі, зробленымі Георгіем ГАРБАТОЎСКІМ (на здымку), фарсяць многія модніцы Светлагорска. Карыстаюцца добрым попытам і дэкаратыўныя ўпрыгажэнні, сувеніры, што ствараюцца ўмельцам: яны прыгожыя, якасныя, своеасаблівыя. Гадоў пятнаццаць назад сын Георгія Міхайлавіча паказаў яму ў часопісе "Юны техник" артыкулрэкамендацыю па лазапляценню. Вырашыў паспрабаваць і ... захапіўся. Паступова хобі стала галоўнай справай жыцця.**

* * *

**Не злічыць гармонікаў, якія ствараў і "лячыў" Фёдар БЕЧЫКАЎ (на здымку). Майстар з Горак успамінае, што на адным з раённых конкурсаў "Іграй, гармонік!" вядучы прапанаваў удзельнікам скласці на сцэне ўсе інструменты, над якімі папрацаваў Бечыкаў. Вельмі выразная карцінка атрымалася! Яно і не дзіўна. З дзяцінства ўлюбіўся Фёдар Майсеевіч у гармонік. Спачатку навучыўся рамантаваць, а потым і сам стаў майстраваць інструменты. І цяпер на гармоніках Бечыкава многія самадзейныя музыканты іграюць сабе і людзям на радасць.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА і А. ТАЛОЧКІ.**



Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма".



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 8.
Падпісана да друку 5.01.1993 г.